*Няхай жыве саюз рабочых і сялян!*

# ЧЫРВОНЫ СЕЙБІТ

двухтыднёвы літаратурна-мастацкі дадатак да „Беларускай Вёскі“

№ 6-7 25-га студзеня 1927 г. № 6-7

## СЕЙ, СЕЙБІТ, СЕЙ!

Міхась Чарот

Сей, Сейбіт, сей.
Зёрны разносіць вецер...
Над магіламі чорных дней
Радасьцю сонца сьвеціць

Сёньня мы ўсе у вагні
Лес так віхурыцца вецьцем...
Сьветла-бурлівыя дні
Будуць любіць нашы дзеці.

Сей, сейбіт, сей!
Мужыцкаю цьвёрдаю жменяй,
Не палохайся белых завей—
Вясною ўзойдзе насеньне.

Сёньня жыцьцё скалыхнём
Сэрца балюча... у крыві...
Мілы і ціхі, мой Нёман,
Брата на волю заві.

Сей, Сейбіт, сей!
Над дзёрнам зарослай магілай...
Ня зможа ліхі сухавей
З намі памерацца сілай.

Сёньня мы роджаны бурай
Сьпеў сонца мяне разбудзіў...
Брат Захаду, брат мой пануры,
Сьмела, сьмела ідзі!..

Сей, Сейбіт, сей!
Сей, дзе крыжы і магілы...
У сэрцы так многа надзей—
Ніколі ня буду пахілым!

Сёньня сьмяюся—ня плачу,
Зьнікае цень чорнай мяжы...
Конь мой верны адважна скача
Ў тыя дні, дзе прыгожа жыць!

## НАД ДАРАГОЙ МАГІЛАЮ.



Дукорскія земляробы над магілаю 16 дукорскіх партызан расстрэленых белапалякамі ў 1920 годзе. Бацькі, сваякі і суседзі кожны год улетку прыходзяць на гэту магілу, каб ушанаваць памяць нашых лепшых барацьбітоў.

# Братом Заходняй Беларусі

## На разгром „Грамады“

### Верш Якуба Коласа

Няхай паны ў сваёй дурноце
Мацней сьціскаюць абцугі,
Каб вас душыць у злосным гнёце,
Каб на калючым панскім дроце
Павесіць скарб наш дарагі;
Няхай ксяндзы, жрацы блюзьнеры,
Падпёршы тылакам аўгар,
Выводзяць панскія намеры
З „сьвятых законаў“ свае веры,
Каб болей сталася ахвяр;
Няхай шалее гэта зграя,
Няхай чадзіць „сьвяты“ дурман,
Каб выбіць з беднага ратая
Прагненьне к волі таго краю,
Дзе няпрышчэпіцца ўжо пан;
Няхай караюць там сурова,
Каб дух народу загасіць;
Хай „ужонд польскі“ слова ў слова
Бярэ прыклады з Мураўёва,
Каб рух спаганіць, ахлусіць;
Няхай—„ад мора і да мора“—
Жыве ў закручаных мазгох,—
Браты, мінецца ліха-гора,
І панскі шал затхнецца скора
Бо стукне молат па панох!

# Комунарам Літвы

### В. С—кі

Цёмна.
Жудасна ў дзень,
Дзікі вецер гуляе ў палёх.
Аб пакуце і сьмерці людзей
Нам шапоча літоўскі быльнёг.

Сьвіст.
Марозная ноч.
Навакол чорнай зграі дазор.
У комунараў іскрыліся вочы,
Як-бы неба паўнюткае зор.

Іх схапілі...
І кроў на сьнягу,
Адарвалі жыцьцё ад жыцьця.
А фабрычны гудок дзесь загуў
І схіліўся чырвоны сьцяг.

У разгульлі мяцеліца вые,
Пад нагамі марозам скрыпіць...
Камунараў гарачай крыві
Нікаму не дапіць.
Не дапіць!

# Сьмерць

### Крапіва

Сяргей Пятровіч—гэта мой добры знаёмы. Вы напэўна, таксама знаеце Сяргея Пятровіча. Толькі гэта ня той Сяргей Пятровіч.

Мой Сяргей Пятровіч—чалавек сталы, паважны, адным словам, чалавек судзейскі.

— Зубы зьеў на гэтым дзеле—хваліцца сам Сяргей Пятровіч.

Ды гэта й праўда—я сам бачыў, што ў яго з зубамі не саўсім ладна.

Хіба цяпер судзейскія—наракае часта Сяргей Пятровіч. Чалавека палюдзку засудзіць ня ўмеюць. Другі раскол заб'е або аграбіць добрага чалавека—сама меней павесіць яго трэба, а яны „прымаючы пад увагу“, „прымаючы пад увагу“, ды так,калі пачнуць „прымаць пад увагу“, дык забудуцца нават прыняць пад увагу і таго,што гэты ня годнік зрабіў. Глядзіш—заміж таго, каб на шыбеніцы гойдацца, праз паўгода, праз год які-небудзь на вуліцы гуляе. Не, памойму хоць ты распролетарскага пахаджэньня, калі папаўся, „дык няма чаго з табою цацкацца“.

Вы можаце сказаць, што мой Сяргей Пятровіч надта жорсткі чалавек. Вось тут якраз вы й памыляецеся. Ён толькі парадак любіць, а так чалавек надта чулы і заўсёды другому чалавеку ў бядзе добрым словам паможа.

Прышлі гэта надоечыда яго на двор пара бяспрытульных хлапчукоў. Брудныя вядома, абшарпаныя, худыя і вочкі блішчаць—есьці просяць. Дык вы думаеце Сяргей Пятровіч адразу прагнаў іх? Саўсім не. Ён спачатку ім цэлую прамову сказаў.

— Эх, вы блазнота—дурнота! Чаго вам было на гэты сьвет зьяўляцца? Ці-ж вы ня ведалі, што

# ГОМЕЛЬСКАЯ ВЁСКА



Вёска Глыбоцкае, Насовіцкага раёну на Гомельшчыне. За апошнія гады вёска перарадзілася. Адчынены новыя чытальні, школы. За хатамі відаць мачта радыё-станцыі.

Пажарны хлеў пабудаваны самімі сялянамі вёскі Глыбоцкае. Глыбоцкія земляроры спазналі страхі агню. У месячнік бавацьбы з пажарамі самі сяляне пастановілі пабудаваць пажарны хлеў, набыць новыя пажарныя машыны.





Абноўленая вёска Глыбоцкае. У вячэрні час, у час адпачынку сяляне глядзяць кіно.

ця пер так цяжка пражыць? Вялікае глупства вы зрабілі, маладыя людзі. А тут у кодэксе й пораграфа такога няма, пад які-б можна было вас падвесьці за гэту справу. Вось і рабі з вамі, што хочаш...

А мне дык Сяргей Пятровіч ня толькі добрым словам памог, але й на справе. У яго кватэрка нішто сабе: камхозкая, пяць пакоікаў і кухня, пятнаццаць рублёў плаціць. І вось, калі я быў бяз кватэры, дык ён мне за дваццаць рублёў адзін пакоік выпусьціў. За гэту яго дабрату я й паважаю Сяргея Пятровіча.

І жонка ёсьць ў Сяргея Пятровіча, трохі ганаровая, але таксама добрая кабета. Яна сваёй служанцы, якая прыходзіць толькі на дзень, заўсёды дазваляе пераначаваць у дрывотні, калі тая ўвечар баіцца йсьці дадому за пяць вёрст на край гораду.

І дзеткі ёсьць у Сяргея Пятровіча—двойка. Дачка тварык дробненькі, нявыразны, носік цыбулькаю. Са сшыткамі ходзіць, на нейкіх курсах вучыцца. Сын—гадоў трынаццаць, чырвоны гальштук на шыі.

Але-ж я абяцаў пра сьмерць нешта сказаць.

Вы спужаліся за Сяргея Пятровіча?

Ды не—сьмелы будзе. Нават наша савецкая сьмерць, якая ў хаўрусе з тыфусам сотні чырвонаармейцаў клала ў дзень, якая цэлае Паволжжа выкасіла і тая баіцца падступіцца да Сяргея Пятровіча. Ня то яна з пашаны да яго саліднай камплекцыі, ня то баіцца, каб „пад пораграф не падвёў“, але яшчэ ніразу не рабіла спробы прыступіцца да яго.

Лёг гэта я спаць надоечы. Сплю я, а сам сьню: ляжу ў труне, увесь у белым, вочы заплюшчаны, але бачу: сястра ў галавах сядзіць плача, нехта прамову гаворыць. Я хачу зварухнуцца, сказаць штонебудзь, пальцам кіўнуць каб паказаць, што жывы

# Легенда

## Андрэй Александровіч

Стаяў палац... Панурай вежай,
глядзеў сурова ў сінь далін.
Наўкола лес сьцяной бязьмежнай
ліў сьлёзы з стромкіх верхавін.

Стаяў палац... Стагналі сёлы,
мястэчкі гнуліся ў бядзе...
Спрадвеку згорблены, дарогай невясёлай
ішоў за днём—нявольны кожны дзень.

У тым палацы, ў сьценах мураваных
жыла Галіна—панская дачка.
Яна таемна, вечарам румяным,
хадзіла ў лес пабачыць юнака,—

Сьцяпанам зваўся той юнак прыгожы.
З мястэчку быў, ён з нашых сам, каваль.
Сустрэнуцца... На возеры варожаць
і слухаюць жартлівы гоман хваль...

Зьлюбіліся, як зоркі з ночкай цёмнай,
як сонейка з калосьсямі палёў...
...Прышла аднойчы Галя засмучонай,
вочы поўныя гаручых буйных сьлёз.

Жыла агністым шчасьцем кожны вечар
і раптам змушана каханьне пакарыць:
— Волі бацькавай ня можна супярэчыць,
— з другім загадана,—з другім мне трэба жыць...

— Як на сьмерць паеду я да шлюбу;
— не адну я ўжо сьлязінку праліла.
— Даруй мне, мілы мой, даруй, саколік любы,
— растацца нам часіна падыйшла.

Сьцяпан ўстаў, зьвіліся вочы гневам,
сэрца сьціснулася, моўчкі адыйшоў...
Думкі носяцца—закінуць шнур на дрэва,
каб на век застыла ў жылах кроў.

Ночку цэльную ў трывозе, ў задуменьні—
ў цёмным лесе ноч правеў Сьцяпан.
Помста выклікала сьмелае імкненьне,—
Помста горда выпрастала стан!

Галасіла ў роспачы Галіна,
плачам ночаньку за горы правяла.
Шкада было Сьцяпана ёй пакінуць,
хоць ня простае крыві яна была...

* * *

Шлюбны дзень... Наьезьлі падарункаў
у панскі двор—шырокія вазы.
Баль кіпіць... зьвіняць кадрылем струны,
льлецца пот замучаных музык.

Слугі панскія збанамі носяць піва,
дый віна за збанам новы збан.
П‘яны гоман носіцца жахліва
над аголенымі хатамі сялян.

---

але не магу. Вось мацней загаласілі. Бяруць века, каб зачыніць труну. Я тут сабраў усю сілу, зварухнуўся і прачнуўся. Чую—усхліпвае нехта за сьцяною. Гаспадыня, чуваць, да некага жаласна-ласкава гаворыць. Стук у сьцену.

— Вы сьпіце, малады чалавек.

— Не, кажу, ня сплю.

— Ішлі-б хоць нашага нябожчыка даведаліся.

— А што ў вас там за бяда здарылася?

— Каток наш Вася, памёр бедны. Ідзеце разьвітайцеся,—усё-ж такі вы сябры былі, можна сказаць.

Узаткнуў чаравікі набасаног, апранаху накінуў, прышоў. Усе ў жалобе. Твары заплаканы.

Сяргей Пятровіч аж пахуднеў, бедны. А ён гэты кот-Вася ляжыць сабе пад белаю просьцінкаю (знарок гаспадыня кавалак паркалю адрэзала) і нічога больш яму ня трэба. Вочкі мяртва глядзяць, зубкі выскалены... Гаспадар пачаў успаміны гаварыць:

— Вы ня ведаеце, малады чалавек, якое гэта для мяне гора. Яж яго, можна сказаць, на сваіх руках вынасіў, малачком сам выпаіў. А што гэта за стварэньне мілае было, каб вы ведалі! Ніколі, бывала, нічога ён не зачэпіць без папытаньня. А які-ж ахайны быў! Каб гэта ён дзе ў хаце, калі што, барані божа. Падойдзе, бывала, прытуліцца, у вочы гляне і пойдзе да дзьвярэй. Гэта ведай, што яго ўжо надвор трэба пусьціць. На шпацыр ён у нас хадзіў кожную раніцу. Выйдзе, погуляе гадзін са дзьве, а потым—сьнедаць.

А які-ж спакойны быў. Другія за паненкамі ўганяюцца, часамі цэлу ноч пад вокнамі лямантуюць, заснуць не даюць, а ён дык нават і ў той бок, бывала саромеецца глянуць. Толькі вось учора, раніцою, бачу я—вочкі ў яго хмурныя і вялы некі ён увесь.

Я спачатку думаў доктара пазваць, а потым са-

Баль кіпіць... Багатае вясельле!
Шалеюць п'яныя на розныя лады...
Пасьцель пуховую ў пакоі слугі сьцелюць
сабраўся йсьці з Галінай малады—

І раптам крык!.. Трывогай задрыжалі
госьці п'яныя, запенілася кроў.
— Сьцяпан прышоў памсьціць паном за Галю,
Сьцяпан, а з ім грамада дзяцюкоў.

Крывёю сьвіснуў чэрап маладога
і гаспадар ўжо канаючы ляжыць.
Галіна скручана халоднаю трывогай:
каханьне й ненавісьць ня могуць разам жыць!

А тут і варта ўзбройна падасьпела;
мячы крывавыя ад сьветачаў блішчаць.
Хвілінаю—Галіна анямела
дый потым стала залівацца—рагатаць...

Сьцяпан пачуў: ня можа больш змагацца,
сілы трацяцца, ў вачох імжыць туман.
Прышла пара з жыцьцём яму растацца:
ў прадоньне возера з вакна зьляцеў Сьцяпан.

І раптам возера ўздрыгнула, загручэла,
халодным гулам моцна ўдарыў гром!
І стала возера, як жвір акамянелы;
хвалі шумныя застылі курганом.

А няпрытомная Галіна рагатала...
шалёным вітрам вецер застагнаў...
Зямля затрэслася!.. Разьнёсься гул абвалу
і зьнік палац—стварылася багна.

... Васеньнім вечарам засьвішча ў полі вецер,
застогне лес, рассыпіцца імгла...
ў мястэчку ўспомніўшы расказываюць дзецям:
— Было даўно... Тут быў палац...

# Паслухай

**Я. Малюкевіч**

Ты паслухай
Сьпеў бягучых,
Уперад йдучых шумных вод.
Іх жывое
Харавое
Заклікаьне напярод!
Так і мы з нядолі,
Так і мы з няволі

Шумным морам
На прасторы
Цераз горы
І затворы
Шлях праб'ём.
К далям вольным і раздольным
Мы ідзём.

Мы ідзём бясконцай
Грамадой адной,
К комунізму—сонцу,
К вольнай працы творчай
Мы ідзём сьцяной!

в. Восава, Капыльскі раён.

бе думаю:—„Эт мала што, ці ня бывае-ж.

Можа, думаю, на жывоціку, што нядобра.

Няхай ідзе пагуляе троха.“ Ды ўзяў выправіў яго, сілаю, можна сказаць, гуляць на двор выправіў. Вось як прышоў ён, дык і лёг.

Ляжыць, і есьці нічога не бярэ, ды так, бедны, цяжка сапе. Я думаў, пераначаваўшы, канечна доктара пазваць, а ён і не дачакаў, бедны, у дванаццаць гадзін і богу душу аддаў. Вечная памяць яму!

Тут Сяргей Пятровіч дастаў хустачку і выцер дзьве буйныя сьлязы. Дзеці пачалі моцна смаркаць і ўсхліпваць, а маці іх, нагнуўшыся над пакойнікам, зноў пачала гаварыць яму нешта жаласна-пяшчотнае. Мне так цяжка стала глядзець на вялікае гора людзкое, што я больш ня мог там сядзець.

Правёўшы мяне да дзьвярэй, Сяргей Пятровіч прытрымаў маю руку і ласкава глянуў мне ў вочы:

— Вы, здаецца, папісваеце, малады чалавек.

Будзьце так добры, уцешце нас у нашым горы: калі шануеце памяць пакойнічка, напішэце аб ім успаміны. Мы прачытаем у журнальчыку ці ў газэтцы і ўсё нам будзе весялей на душы.

І я напішу. Я абавязкова напішу вялікае апавяданьне аб тым, як жыў адзін добры судзейскі чалавек з жонкаю і з дзеткамі і які ў іх быў слаўны коцік Васька. Васька памёр, а судзейскія людзі ўчацьвярых цэлу ноч сядзелі і плакалі над пакойнічкам.

Я напішу—няхай увесь сьвет ведае аб тым, якія добрыя судзейскія людзі ёсьць на сьвеце і як яны любяць і шкадуюць бедных коцікаў.

14/XII—1926 г.

# Поэзія маладых на вёсцы

**Мікалай Шатэрнік**

„Художник должен уметь отойти от того, над чем он работает, посмотреть со стороны, из прекрасного далека"... Потому что: „Читатель, находясь в ином, в наиболее охлажденном состоянии, воспринимает произведение иначе, чем писатель.

**А. Воронский.**

Шмат ужо нашы маладнякоўскія лірыкі выпусьцілі сваіх упрыгожаных кветкамі зборнічкаў „поэз" для беларускага рабочага і селяніна,—штук ужо 45. Шмат у гэтых зборніках ёсьць вартнага, што з прыемнасьцю чытаецца, як сапраўдная мастацкая творчасьць, але шмат—ды мусіць і болей—ёсьць у гэтых зборнічках такога, што ніяк ня цягне да сябе, хоць усё тут з погляду маладое, рэволюцыйнае Бо:

„... Па **вёсках лахудрых**
**аўсы камуне б'юць паклоны.**
Дык, песьня, раскудлач—жа ты кудры
ў вясковым **аблавухім клёне!**".

*Я. Пушча.*

Прычына гэтаму ўжо выясьнена нашаю крытыкаю: неразумеласьць поэтычных вобразаў, што ствараюць з такім захапленьнем маладнякоўцы-песьняры.

Я тут толькі хачу выказаць свае думкі, думкі вясковага чытача, аб маладнякоўскай поэзіі з прычыны трохгадовай працы літаратурна-мастацкага згуртаваньня „Маладняк".

Мне ў практычнай працы часта прыходзіцца выступаць з беларускай літаратураю перад сялянскімі гушчамі, во хоць бы на гэтых днёх у раённай школе перасоўцы палітграматы, дзе вучацца і падросткі, і хлопцы, і дзяўчаты, і сталыя мужчыны, дзеці якіх адначасова ходзяць у апошнія клясы сямігодкі. Усе гэтыя слухачы ад сахі і ад прасьніцы, бо школка ніжэйшага тыпу. Каб зацікавіць іх да свайго роднага слова, я пачаў справу выкладаньня мовы іменна чытаньнем і разглядам вершаў пра сялянскае жыцьцё Коласа, карыстаючыся 20 цігадовым юбілеем апошняга, Далей, поруч з граматыкаю, было прачытана й разгледжана апавяданьне Гушчы (Коласа-ж) „Малады дубок". Усе слухалі ўважліва, неперарываючы: у вершах і апавяданьні ўсё было зразумела, бо чыстая беларуская мова. Абмен думак быў жывы.



**Мікола Шатэрнік**
вясковы настаўнік. Працуе ў Навасёлкаўскай сямёхгодцы. Актыўны вясковы працаўнік, шмат працуе ў краязнаўчых організацыях.

Урэшце я адважыўся (іменна адважыўся)пачытаць дзядзьком, хлопцам і дзяўчатам маладнакоўскай поэзіі. Папалася Пушчы „Раніца рыкае", Прачытаў „Тут і там" і „Вецер—шэльма разбэшчаны".

— Ну, як падабаецца?

- Халоднае маўчаньне.

— Як вы разумееце словы: „З залатымі пагонямі вечар не мазоліць палёў гаратлівых. Эх, даволі, даволі і табе мешчанін супярэчыць"!..

— А тое, што ўжо сонца заходзіць,
— Хіба-ж яно ў залатых пагонах?
Сталі рагатаць.

Праўда, сэнс першага вершу адным слухачом быў улоўлен блізка правільна і выказан.

— А як вам падабаецца выраз:
**„Вецер—разбэшчаны шэльма,**
Ня хістайся ў **цьвярозай шыры!**
Вунь у вёсках жытнёва-кужэльных
**Наваброццамі песьні базыраць!**

— Гэта хіба малапісьменны можа так пісаць: Вецер—разбэшчаны шэльма"

А другі: „Гэта за царом пісалі адно а трэба было разумець другое. Цяпер нашто так пісаць? Цяпер у нас толькі рабочыя ды сяляне“.

У канцы-ж усе слухачы ў голас заявілі, што ў Коласа ім усё зразумела, і добра, і падабаецца, а ў „маладога“—нічога не зразумела.

У вясковай сямігодцы разумеецца ў апошніх клясах, на лепшыя творы—вершы лепшых маладнякоўцаў вучні жаляцца, што яны (вершы) вельмі цяжкія, не зразумелыя.

У шостай клясе з хрэстоматыі вучань чытае „Песьню вёскі й фабрычных станкоў“, Александровіча: „У полі **зялёнаю ноччу**
**Жалейкай зьвіняць агні**“...

— Зразумела?

Усе вучні: „Не, нічога не зразумець“. Пачынаецца „об'ясьнительное чтение“. Але вучні ня могуць згадзіцца і ўразумець (ды дзіва-б было, каб уразумелі), чаму гэта **„зялёная ноч“**, і **„зьзіняць агні“**, бо яны, маючы нормальныя органы пачуцьцяў, у фізычных умовах планэты-зямлі ведаюць толькі цёмную ці месячную ноч, а агонь для іх (і для ўсіх нацыяў) ніколі ня зьвініць, а гарыць.

Народная беларуская поэзія таксама характарызуе ноч ці цёмную ці „віднаю“; у жывой мове ў нас кажуць пра ноч: Цёмна, хоць ты вока выкаль“, або: „Відна, хоць ты йголкі зьбірай“. „Зялёнаю“ ноч можа здацца хіба тады, калі ў каго зелена ў ваччу“.

Настаўніку прыходзіцца пакрываць поэта, што ён „перабраў“, а дурыць вучняў, што эпітэт „зялёная“ дапасуецца да „ноч“, і што „агні“ „зьвіняць“, **з дыдактычнага боку** задача няўдзячная: на такія тлумачэньні шмат марнуецца часу, а карысьці на грош. У вучняў-жа складаецца такое ўражаньне, што ў вершах можа быць шмат слоў „так сабе“, каб страйней выходзіла“.

Для завучваньня на памяць маладнякоўскія вершы цяжкі (разумеецца за невялічкімі выключэньнямі).

Адсюль ідзе вынік: маладнякоўская поэзія ў форме крайняга імажынізму (па Гарэцкаму М. „Панская хвароба“ саўсім не магчыма для ўспрыманьня селяніну (а поэты-ж работніцка-сялянскія, пролетарскія), непатрэбна яна вясковаму інтэлігенту і **ня можа мець месца ў працоўнай школе**, школе рэальнага жыцьця і змаганьня.

Поэтычны твор будзе тады лірычным, калі вобразы яго заражаюць чытача „лірычным пачуцьцём (гл. „Тэорыя поэзіі і прозы,„ Овсяніко-Куліко ўскага). Калі-ж вобразы ненатуральныя (прыклады папярэднія і яшчэ: **„Забляяла зара“**, Пушчы-ж), а выражаючыя яго словы патрабуюць, **„як** фігуры рэбусу, адгадкі“ (выраз Львова-Рагачэўскага), розных тлумачэньняў, тады няма лірычнасьці і наогул поэзіі, а ёсьць незразумелая проза.

Гэта не датычыць тых твораў імажынізму, у якіх поэт не пераступае па радзе Варонскага А. „мудрай точкі“, а йдзе па сьлядох поэтычнай творчасьці ў народных песьнях, казках і інш.

Па закону асоцыяцыі контрасту тут мімаволі прыходзяць мне на памяць стройныя вобразы чаротаўскага імажынізму, вытканыя на аснове народнай творчасьці:

„У высі зорак сенажаць
Вартуе месяц-дзед двурогі
ня хоча раніцу спаткаць
і лесам хмар ідзе бязногі“...
„Вясёлых птушак пераразвон
гудзе на воблачнай званіцы... („Вясну пяю“).

Параўнайце гэта з „зялёнаю ноччу“ Александровіча, або з вобразам Пушчы:

„Беланогі, **расчухраны** месяц,
**лявоніць** у лісьці кляновым“...

Які вынік будзе і на чыю карысьць вельмі зразумела.

Канчаю конкрэтнымі пажаданьнямі поэтам-маладнякоўцам: 1) не тварыць ненатуральных, незразумелых вобразаў; 2) не псаваць беларускай мовы калючымі наватворамі(базырыць, лявоніць і падобн.); 3) да наступнай гадавіны стацца зразумелымі беларускімі работнікамі і сялянамі і заняць пачеснае месца ў беларускай працоўнай школе, зрабіўшыся кіраўнікамі думак падрастаючых будаўнікоў соцыялізму, якія ідуць на зьмену стараму пакаленьню рэволюцыйных змагароў.

20 сьнежань 1926 году
с. Навасёлкі, Пухавіцкага
р., Менск. акр.

# Окупанты*)

## З жыцьця Заходняе Беларусі

**Антось Замежны**

Цёплы ціхі васеньні вечар.

Косы заходзячага сонца крывавым водблескам патухаюць на пазалочаным крыжы высокай вежы касьцёлу.

На вэрандзе клябані ў мутна-сінявым змроку сядзяць у плеценых крэслах ксёндз і пшэдоўнік паліцыі. Час-ад-часу перакідаюцца пустымі словамі адрывістай гутаркі. Лянуюцца думаць, ім добра, у іх паўната душэўная і сыты супакой. Пшэдоўнік толькі што ўстаў ад пасьляабедняга сну і сам ня ведае чаму трапіў да пробошча.

Ксёндз нядаўна вярнуўся з касьцёлу, выпіў віна з салодкім пернікам, а як прышоў госьць вывеў яго на вэранду, бо лямпу паліць яшчэ рана.

Ім добра яны поўныя ўладары ўсяго акружаючага, у іх руках пружына ўлады. Увесь гэты местачковы люд і шэрае вясковае „быдла“, якія водгукамі сваёй працы напаўняюць вечар, усе яны, належаць ім. Вось чуваць, як людцы звозяць збожжа, пануківаюць, пяюць і лаюцца, скрыпяць вазы; бразгаюць зялезныя дронгі зачыняючыхся крамак; дае голас стада вяртаючыся з поля; недзе плача дзіця; далятаюць п‘яныя, хрыпатыя крыкі з рэсторану, а ахмістрыня ксяндза крычыць на службу за нейкія непарадкі; у садзе покнуў аб зямлю яблык, раптоўна адарваўшыся з пажоўклай антонаўкі і пялеснуўся карась тут-жа ў сажалцы. А ўсё і ўсюды адчувае ўправу, неабмежаванае панаваньне іх уладароў „крэсаў“.

Ім добра і яны цалком аддаюцца асалодзе і самалюбству.

— Ведаеце, цудоўная наша Рэчпаспаліта!—прагамзаў ксёндз.

— Нуда толькі пякельная тут на гэтых крэсах,—сказаў пшэдоўнік і пазяхнуў.

Зноў пустое маўчаньне.

Зьмярканьне згушчалася акругляючы канты прадметаў, выпаўзаючы з кутоў цёмнай сіня-зялёнай паволокай.

Добры вечар, панове,—сказаў уваходзячы на вэранду Пшэпшык, уласьнік рэсторану „Варшавянка“. Як ваша, пане пшэдоўнік, здароўе на посьля заўтра?

— Вось кажу, што тут нуда страшэнная.

— Дайце, панове, у профэрансіка,—запрапанаваў ксёндз.

— Чацьвертага няма.

— Пашлем за панам Драпідзюрскім.

А я прынясу помажанкі і лікёру, і нуды, проша паноў, як і ня было.

І вось неўзабаве касьцёльны стораж дыбаў у суседні маёнтак па абшарніка Драпідзюрскага, ахмістрыня шкварыла розную закускі, Пшэпшык валок выпіўку, а ксёндз і пшэдоўнік устанаўлівалі зялёны столік, крэслы і іншае.

А як сабралася ўся кумпанія, дык гулялі ў карты, курылі расказвалі тлустыя анэгдоты і запівалі півам.

Праз неякі час прышла расфуфыраная ахмістрыня і папрасіла на вячэру.

Пры поўнай чарцы і сытай вячэры разьвязаліся языкі, тым больш што кожны хацеў выдзеліцца, адзначыцца перад пуцатай, чырвоншчокай ахмістрыняй, якая са свайго боку да ўсіх уміленна моргала заплыўшымі мышынымі вочкамі і папраўляла выраз у кофтачцы так, што ажно выдзяляўся равок між грудзьмі.

Падхмялеўшыя госьці далей-болей, больш рашуча падлабуніваліся да панны Вандзі, што рабіла шмат клопату і згрызот для ксяндза, які рознымі спосабамі неўзнаку стараўся прыкрыць павабныя месцы ахмістрыні ці адцягнуць увагу гасьцей на іншыя рэчы. Асабліва былі раптоўныя ў сваіх залётах пшэдоўнік і малады абшарнік, які нядаўна скончыў навукі, атрымаў спадчыну і прыступіў да гаспадараваньня.

— Пане Пшэпшык, раскажы нам які-небудзь са сваіх анэгдотаў. Панове, прашу не забываць чарак.

І ксёндз сярод пустога сьмеху і п‘янага гаму падліваў у чаркі, а Пшэпшык расказваў.

— На гэты раз слухайце не анэгдот а даволі прыкрае здарэньне. Ня так даўно, калі наша кумпанія ўжо добра панюхалася, уздумалі мы напужаць адну з набожных кабецін, вунь тую чорнабровую, трохі касавокую, як яе...

— А, ведаю! Гэта Томашувна, у яе

*) Апавяданьне атрымана ад аўтара, які жыве ў Заходняй Беларусі і абмалёўвае тамтэйшае жыцьцё. Даем яго апавяданьні бяз ніякіх зьменаў і папраўак.

бародаўка на паясьніцы, – падсказаў пшэдоўнік.

А яе каханак Гржэгож! Ох, і даў-жа я яму раз пытлю на споведзі.

— Ну вось, – цягнуў далей Пшэпшык —хто са мной тады быў, ня памятую, жытнёўка памяць адняла. Падышлі мы гэта да вакна ноччу ад саду. Ну, нехта з нас, калі драгне ў вакно ды парасійску, пабандыцку, калі зараве, бо цяпержа бандыты найгоршы страх:—Открывай, говорит, немедленно! А самі ў ногі, ну і, пся косьць, усе ўцяклі, а я ў нейкую яму ўваліўся. Тут мяне і сцапалі. Валакуць гэта з ямы, а я лаюся на што добрым людзям ямы на дарозе капаюць. Вышла, што яна была спэцыяльна выкапана, каб хаваць дабро ад бальшавікоў, а цяпер не засыпаюць бо, кажуць—яшчэ ўсяго можа быць, можа прыдзецца ізноў капаць, быццам бальшавікі маняцца ізноў прыйсьці.

— Што, ізноў бальшавікі?! Ніколі! Запярэчыў абураны ксёндз. Бог не дапусьціць. Мы лепшыя сыны Рэчыпаспалітай, умацовываючы крыж і культуру тут на дзікіх крэсах, на рубяжы чырвонай заразы, выконваем сьвятую місію ўсяго чалавецтва. У нашай барацьбе бог, ён падлічае нашу самаахвярнасьць і трудную працу, ён дае нам сьвятое аружжа для зьніштажэньня бальшавізму, гэтых бандытаў і недавяркаў. Панове, я—як і кожны чалавек грэшны, ня думайце, што сутана застрахоўвае ад грэху, але каб стаць перад сьмерцяй ачышчаным, каб адпакутаваць свае праступкі зямныя я прышоў сюды, нясучы высака крыж, рынуўся ў гушчу ворагаў айчыны і даўлю іх як мага і дзе мага. Панове, кажу вам з вялікім задаваленьнем, што кожны дзень маёй сьвятой працы прыносіць заслугі Найясьнейшай Рэчыпаспалітай, кожны дзень я чую, як спаўзае цяжар з душы маёй, кожны дзень...

— Прабошчаньку, гэта мы паслухаем у нядзелю на казаньні, а цяпер хай нам Пшэпшык скажа, што было там з ім далей.

— Далей нічога цікавага, пане Драпідзюрскі, кажуць захварэла Томашувна ад перапуду, у гарачку кінула. Ну, а чаму ёй ня мець гарачкі, калі яна, што называецца, баба з тэмпэрамэнтам. Ха-ха-ха...

— Панове, дазвольце слова пшэдоўніку вашага паліцэйскага пастарунку, бо хоць можа я і п'яны, але яшчэ ня зышоў з праўдзівай дарогі, і ня ківаю языком, як крапідлам.

— Просіма, просіма...

— Панове, я люблю казаць праўду служба гэтага патрабуе. Вось люблю панну Вандзю і кажу гэта перад вамі ўсімі, бо панна Вандзя гэта, гэта... Панове, выбачайце, мне перашкаджае ікаўка, але я хачу казаць далей. Панове, пробашч наш—вельмі добрая душа,—ён па дабраце зьеў яблык, якім спакусіла яго панна Вандзя, ну, яго беднага і саслалі на дзіке поле. А я панове, злодзей, а калі выражацца па газэтнаму—дэфраўдант. Служыў на конгрэсувцы, пракраўся, саслалі сюды. Усе мы, панове, дэфраўданты, а калі вы гэтага ня ведаеце, дык спытайце ў мяне старога паліцыянта. Ну, дык што-ж! Цяпер мне, як найбольш налавіць комуністых у мышалоўку, а там глядзі, і вышэйшая адзнака, кар'ера і ўсё такое. Прапаную выпіць за Польшчу, панну Вандзю і жытнёўку, якая ў гэтым жытнім краі напаўняе золатам сховы пана Пшэпшыка.

З пшэдоўнікам выпілі ўсе прысутныя, але настрой яго прыкрай гутаркай быў папсуты.

— Пане пшэдоўнік, я з вамі выпіў, бо я на гасьцінах, я шляхціц, а каб быў бальшавіком, дык-бы гарэлку вам у вочы выліў, а чарку на галаве рашчапаў,—сказаў кусьліва абшарнік.

Справа магла-б дайсьці да вострай спрэчкі, але ў гэты час пачуўся плач. Вышлі даведацца. Аказалася, што гэта плакала маці Томашувны. Яна жалілася, што дачка ледзь не памірае і прасіла Пшепшыка даць валасоў, каб падкурыць ад перапуду.

Гэта вызвала дружны сьмех ува ўсіх прысутных, бо Пшэпшык быў да шчэнту лысы і начыста голены. Кабеціна вельмі абурылася сьмехам п'янай кумпаніі, казала, што ёй лекі дорага каштуюць і нічога не памагаюць, што яна Пшепшыка падасьць на суд, што фэльчар пасьведча, што хвароба ад перапуду і г. д. Ксёндз і іншыя пачалі супакойваць кабеціну як мага, а тым часам Пшэпшык зьнік, і калі неўзабаве вярнуў, дык нёс ужо ў паперцы касмыкі валасоў. Тут яшчэ грамчэйшы падняўся сьмех, але кабеціна атрымаўшы гэтыя забабоны сьплюнула ў бок рагочучых і шпарка вышла.

Але не здалелі паны ізноў засесьці за стол, як ізноў бяда. Прыехаў хлапец з вёскі і просіць ксяндза да хворага і проста моліць, каб паехаў, бо хворы памірае. Ксёндз рашуча адмовіўся ехаць. Было ўжо позна, не хацелася пакідаць балёўкі, а галоўнае тое, што баяўся пакідаць адну ахмістрыню ў п'янай кумпаніі. Відаць, думкі ксяндза ўгадаў пшэдоўнік.

— Ксянжульку, калі вы прыехалі сюды са сьвятой місіяй, дык павінны паехаць да хворага. Памірае мужык на вёсцы, гэта-ж для вас добры выпадак прыслужыцца айчыне. Папужайце яго акуратна пеклам, пастрашце небам і ён вам раскажа, дзе і хто з іх комуністы— яны хамы добра знаюць адзін другога.

Зразумела, што проціў такіх довадаў ксёндз ня мог пярэчыць і праклінаючы ў душы пшэдоўніка мусіў паехаць.

Як толькі ксёндз схаваўся за дзьверы, дык госьці не выключаючы і панну Вандзю пачалі з яго жартаваць, перадражніваць, расказываць розныя ксяндзоўскія анэгдоты.

— Панове, гэта я сумысьля падлажыў міну пад пробошча, каб яго адправіць далей ад панны Вандзі,—сказаў пшэдоўнік.

— Гура! Ха-ха-ха...

— А вы памятаеце,—пачаў абшарнік, як на нас раз наскочыў ксёндз з Падушковіч, калі мы працавалі за зялёным столікам.

— Ха-ха-ха...

— Стары хрэн, порах сыпіцца, а глядзіце які злосны.

Тут абшарнік адставіў ніжнюю губу, махаў кулакамі, топаў нагамі, наагул стараўся пераймаць таго ксяндза, што вызывала сьмех у присутных.

— Вас зялёны столік толькі цікавіць, вам не баліць, што гіне Польшча. Бо вы сьляпыя, вы ня бачыце, што пад вашым носам дзеецца, вы ня чуеце, што пад вамі грунт хістаецца...

— Ха-ха-ха...

— Вы ня знаеце крэсаў, вы ня знаеце, што тут узрастала і што расьце ў цёмных душах галоднага цела хамскага беларуса — адвечная помста, якая на кожным шагу нас падсьцерагае, якая зубамі рвець усё польскае.

Бе-ра-жэ-це-ся!

— Ха-ха-ха...

— Так мы тут паны, мы ўлада, мы сіла, але толькі па названьні, толькі тут, каля зялёнага століку, у клебані на малюсенькім востраве, а там чырвоная сьмерць, крывавае мора, рэволюцыйная хваля. Вось трымайцеся за зялёны столік, праігрывайце айчыну ў карты, але туды за парог ня важцеся выходзіць, там пропасьць, там мужычая, шалёная ад нянавісьці, хваля змые вас, зьліжа, праглыне. Ня важ-це-ся.

— Ха-ха-ха...

— Ах, Езус, Марія! . Панове, пажар!— Крыкнула ахмістрыня і паказала на вакно, дзе на зарыве недалёкага пажару выдзяляліся рамы вакна.

Пачулася страляніна і крыкі людзей.

Гуляшчая кампанія анямела, ацьвярэзела. Пшэдоўнік шпарка пагасіў сьвятло, якое магло служыць прыцэлам. Чатыры на сьмерць перапуджаныя фігуры валтузіліся ў цемнаце, чапляліся за рэчы, білі начыньне, ламалі мэблі. Раптам пакой асьвяціў электрычны ліхтарык— гэта ўскочыў запыхаўшыся паліцыянт.

— Пане пшэдоўнік, бандыты напалі на маёнтак пана Драпідзюрскага!

Клебанія апусьцела. Як на кару сьмерці ішлі окупанты ў жудасную варожую цемень ночы, якая з кожнага кута злосна іх падсьцерагала, якая была ў загавары разам з партызанамі.

А на пазалочаным крыжы высокай вежы касьцёлу палыхала чырвоным абцягам—палотнішчам зарыва пажару.

## У дэфэнзыве

**Антось Замежны**

Палачы, окупанты, фашысты,
Здраду хочаце вырваць з жыцьцём.
Мае раны пад вашым біцьцём
Загамоняць больш цьвёрда, вагніста,
Што ня выдам братоў палачом.
Выдумляць горшы зьдзек, катаваньне
Не патрэбны турботы для вас.
Што мне боль, калі ў гэты я час
Палыхаю жаданьнем паўстаньня
Шматмільённых прыгнечаных мас!
Хоць вы сэрца на часткі парвіце,—
Ў кожнай частцы жыць буду, каб мсьціць.
Помсты нашай нічым не згасіць!
Блізкі час, калі мы бліскавіцай
Тут запалім часы навальніц.



Беларускі песьняр **Міхайла Грамыка**

# Студнёвыя сьпевы.

**Міхайла Грамыка**

Сьнег і халодныя сінія змрокі.
Студзень стаіць, нібы белы статуй.
Вуліцу хрустаюць мерныя крокі—
Гэта чырвоных аддзел,—не жартуй!

Гэта армейцы да дому з вучэньня
Гэта сталёвая йдзе пакаленьне
Гэта рабочых сябры,
Гэта бядняцтва сябры.

Зоры марозныя зіркаюць з неба.
Месяц як дражніцца срэбным сярпом.
Горад ня крыкне: „Нам гульбішч
і хлеба!“
Горад ня Рым з старажытным гербом.

Гэй, прыглядзіся у гэтыя вочы:
Знойдзеш ня мала ты новага тут.
Вораг ня дарма з жандарамі сочыць,
То аж зьбялее, то зарыгоча,
То аж сябруе, то ён ня хоча
Пыхкае Вісла і Прут...

Недзе там Коўна маленькая ярыцца,
Нешта надумаўся Лёндан, Парыж.
Але-ж нічога! Як каму здарыцца:
Можа й па мору даплысьці ваш крыж!

Неба—ня неба: зімовыя лёзунгі,
Літары з золату вытканых зор.
Моц пролетарская, сяньні ты лёсу кінь,
Як ты на вуліцу клікнеш на збор!

Хай памятае фашысцкая Коўна:
Нёман—даўгая рака.
У Коўну ня раз на плыце ды у чоўну
Плюскаўся сьпеў батрака!

Гэй вы, сьнягі вы, прабегі вы лыжныя,
Гэй ты, зімовы наш спорт!
Хопіць разгону краінам пазьбліжаным
З Бэрынга [1]) у Ленінскі [2]) порт.

Хопіць сьнягоў пагуляцца з „спорт-
смэнамі“ [3])
Вы нам гарматамі? Што-ж!
Мы не паны, але з вамі „джантльмэ-
намі“ [4])
Знойдземся змовіцца ўсё-ж!

Вы нам гарматамі?
Мы вам сьняжкамі.
Але на кожным сьняжку
Грозна напішам мы:

„Гэй вы, за кратамі!
Годзі з панкамі,
Годзі з бажкамі,
Гэй ты, уэльсец [5]), руку!

Чуеш, як дышам мы?
Зьлійся з аратымі,
Рві з джантльмэнамі.
Будзьце, шахцёры, па наску спортсмэ-
намі:
Кідайце бомбай ў палацы мілёрдаў,
Лёрдаў лавіце у сеткі на тэнісе [6])
Тэмза [7]), і ты тады бурна запенішся
Змыеш няроўнасьці гораду!

Змыеш крывізны усе соцыяльныя,
Успомніш пра Волгу, Дняпро і Няву,
Успомніш краіны бурлівыя, дальнія,
Узьнімеш вышэй галаву!

* * *

Зараз зіма у нас, сінія змрокі,
Працы спакойнае гмахавы дым,
Ды дэмонстрацый разьмерныя крокі,

---

[1]) Бэрынгава мора на поўначы між Азіяй і Амэрыкай.

[2]) Ленінград

[3]) Спортам асабліва займаюцца ангельцы; гэта слова іхнае.

[4]) Джантльмэн—паангельску шляхетны чалавек

[5]) Уэльс—адна з камённа-вугальных акруг ангельшчыны.

[6]) Тэніс гульня з малым мячом, які кідаюць праз сетку.

[7]) Тэмза—рэчка, на якой стаіць Лёндан, сталіца ангельшчыны.

З вольных стэпоў да балтыцкай затокі,—
Мы социяльным протэстам гарым.

Шлем абурэньне фашысцкаму Рыму,
Сочым, як зброіцца імпэр'ялізм,
Шлем спачуваньне на Суна [1]) радзіму,
Вечна жыцьцём міжнародным гарым!
Расы калёрныя,
Жоўтыя, чорныя,
Учора пакорныя,
Рынкі рабоў,
Сёньні упартыя
Гонару вартыя.

Заўтрашні дзень ваш бяз „белых" паноў!
З белымі разам сваіх паскідаеце,—
Гэй ты, Вялікі людзкі Акіян!
Борнэо, Суматра, Фіджы і Гаіці,—
Колькі у вас сонца! Жыцьцё ж праклі-
наеце,
Бо социяльнае волі ня знаеце,
Хоць і хвалюе рака Ян-Цы-Дзян! [2])

Гэй ты, вялікая скрыўджаных партыя
Болей даеш ты, як „вольнасьцей
хартыя" [3]),
Што утварыла калісьці парляманты.
Там, у тых парлямантах чуюцца лямантьі
Скаргі дарэмныя гушчаў прыгнечаных
Жорсткай рукой залатой пакалечаных...

Чорныя, шэрыя, сінія вочы,
Жоўтыя, белыя, чорныя рукі
Кідаюць скардзіцца, роўнасьці
хочуць,
Марксавы, Энгельса верныя ўнукі.

Марксавы ўнукі, брацeнікі Леніна—
Ён—пралетарскай сьвядомасьці яснасьць,
Ён—барыкад пролетарственых гені нам
Ён напісаў нам нязмытыя лёзунгі!

Слухай, быцьця буржуазнага прозу
кінь,
Слухай, сьсябруйся з сялянамі ба-
трацтвам і беднымі,
Тымі, праўдзіва, зямлі пролета-
рыямі,
Зробяцца наступы вашы пабеднымі,
Толькі тады вы ня будзеце парыямі [4])

[1]) Сун-Ян-Дзен кітайскі рэволюцыянэр.

[2]) Борнэо, Суматра, Фіджы, Гаіці—астравы на Вялікім Акіяне. На Суматры зараз паўстаньне чорна-скурых людзей супроць галяндзкіх капіталістых

Ян-Цы-Дзян (Ян-Дзе-Кіянг)—рэчка ў Кітаі.

[3]) Хартыя—статут, констытуцыя, якой дабіўся калісь ангельскі народ ад каралеў (Magna charta libertatum).

[4]) Парыі—у Індыі так завуць самых бяспраўных людзей (каста парыяў).

Новыя словы чуюцца усюды,
Новы у старым нараджаецца сьвет.
Гэта-ж ня дарма злуйцеся Юды—
Стала усьсветна вядомым—Савет!

Слова зраднілася з мовай французскай,
З мовай ангельскай, кітайскай, банту [5]),
Там, як і тут, на зямлі беларускай
Сонца ідзе з ім у змрок-цемнату.

* * *

Слаўны нашых дзён здарэньні!
Социяльных нітак ткань
Пазлучыла у абурэньні
Ніл, Памір і Іордань.

Абураюцца на злота,
На князёў, на капітал,
Аб'яднаецца „галота",
Вывучае „капітал".

Дзіўна тут з навукай зьліта
Пазбаўленьне людзкіх бед,
З вывучэньнем перавіта
Ленінізм і плянэт!

Пра расьліны, пра каменьні
Ведаць мусіць пролетар,
Каб шляхі пазнаць збавеньня
Ад жрацоўства, ад баяр.

Каб ня знацца з сілай злота
Не даваць яму ахвяр,
Каб самому быць пілотам [6]),
Крыкнуць стуль: „Я гаспадар"!

Каб машынай—самалётам,
Караблём каб кіраваць,
Ў ноч зімовую пад плотам
Бяспрытульна не канаць!

Каб сыйшла у „царства ценяў"
Братазгубных войнаў здань,
Між працоўных пакаленьняў
Заплялася стальлю ткань!

Каб па дротах, і бяз дроту
З вуснаў у вуха, з сэрца—у мозг
Усім братом знаёмы у нотах
„Катаваных" гімн узрос!

Каб ад клічу пролетараў,
Як ад хваль узьняўся плёск,
Каб ад полымя пажараў
Растапіўся сьвечны воск.

[5]) Банту—адно з пляменьняў нэграў у Афрыцы.

[6]) Пілот—лётнік на аэроплане.

# НАД НЁМНАМ



Ціха і плаўна коцяцца воды Нёмна з Савецкай краіны туды, на Захад, дзе гуляе панскі бізун, дзе беднасьць і няволя апанавала працоўных, дзе селянін сам сабе не гаспадар. Але ня толькі Нёман злучае нас з прыгнечанымі братамі. Нашы думкі, нашы пачуцьці разам з тымі, хто там змагаецца за соцыяльнае і культурнае вызваленьне.

Сьвечны воск старых ахвяраў,
Сьвечны воск старых надзей
Стаяў у полымі пажараў
У сьпевах звольненых грудзей!

Гой, студнёвыя вы сьпевы,
Рэчкі скутыя, сьнягі!
Мерны крок армейцаў: „левай“!
Рэха б‘ецца ў берагі...

„Левай“! У бераг Атлянтыды,
„Левай“—у бераг Го-ан-го,
„Левай“—у камень піраміды
„Левай“—у залі, дзе Танго! [1])

„Левай“—у лёнданскія залі
„Левай“—у Мукдэн і Нью-Іорк.—
Досыць залі балявалі
Прадавалі працу ў торг!

Выхадзі на бой крывавы,
Стань па той бок барыкад:

[1]) Го-ан-го рэчка ў Кітаі. Танго—панскі распусны танец.

Кроў рассудзіць, хто з нас правы,
Не паможа тут дукат! [2])

Пролетары, што губляе?
Ланцугоў іржавы квет?
А за кроў сваю купляе
Мала-мала, цельны сьвет!

Цяжкавата?—шэраг бліжай!
Хістанецца той статуй.
Крыж насіць? Лепш спаць бяз крыжу.—
З нашым сьцягам не жартуй!

Не жартуй, бо сьпеў студнёвы,
Перапынку, працы плод,
Можа хутка стаць вясковым,
Як падойдзе ледаход.

Бо мы кажам: спаць бяз крыжу
Пролетарам лепш куды,
Як канаць ля сьцен Парыжу
З беспрасьветнае нуды!

13 студзеня 27 г.

[2]) Дукат—залатая монэта.

# У дарозе досьветкам

**П. Рагачэўскі**

(Адрывак з апавяданьня „Апалі лісты“)

Ужо надышла позьняя восень, а дні сонечныя, цягучыя, як мядовыя рэчкі...

Мой бацька, прышоўшы вечарам з работы, крышыць самарослую табаку, моцна чыхае ад яе крапкаты...

— Гых, а якая-ж, падла, моцная, як воцат...—некаторы час ён сядзіць моўчкі, а пасьля, нібы да сябе, гаворыць:

— Скора ўжо ляжа зіма...

— Хто, тату, такую вестку падаў?— Сьмяецца з бацькавых слоў мой меншы брат, Юзік.

Стары пацягвае апошні раз папяросу, абсьлюнівае яе і кідае на падлогу.

— Жураўы нізка лятуць.

— І загэтым усяго?—Сьмяецца зноў Юзік па дзяцінаму—радасна.

— Вот і гавары ты з п'яным пацеры... Ты ў плот, а ён у гарод. Лепш хадзем да паможам бабам бульбу ссыпаць.

Я застаюся адзін у хаце. За вакном дацьвітае ружаю дзень... К маёй душы падступае ціхая радасьць, і я, скрыпам падлогі, баюся парушыць урачыстую ціш адвячорку. Я застанаўліваюся, гляджу на пазалочаны захад, і неяк раптам прыпамінаю, што я хутка еду ў горад.

Я гавару сабе:

— Эх, горад!..—Радасьць мяне ахватвае яшчэ большая,—і я пачынаю з упоем шаптаць:

— Мілы горад!.. Родная зямля...

Я адчуваю, што я шапчу чорт ведае што. Я на хвіліну застанаўліваюся, абдумываю, а пад канец гавару сабе:

— Ці ў сваім ты розуме, чалавеча?

Мне з гэтага становіцца сьмешна,— і я пачынаю ціха сьмяяцца. Я чую: стукнулі дзьверы ад сенцаў. У хату ўваходзіць сястра і пытае:

— Ну, як тваё здароўе?

— Яшчэ й як—жартую я, каб захаваць папярэдняе.

— Вось еду пасьлязаўтра ў горад. Заходзіў фэльчар, казаў, што я, можна сказаць, зусім здароў.

— Вот як?—усяго й гаворыць сястра і ідзе да печы.

Я добра ведаю, што цяпер ёй не да маёй гаворкі: павыбіраць цэлы дзень бульбы, гэта не абы што. Але я не маўчу,— і абы гаварыць што, гавару:

— Ці вялікі сёлета ўрод бульбы?

— А ніштo,—адказвае сястра крыху жартам—каб пазганяў вашых з гораду ўсіх гультаёў, дык хваціла-б выбіраць...

„Вашых“,—як гэта ня было сказана, але ў гэтых словах я адчуў нешта большае—не адзін яе голас... Але гэта мільганула неяк раптам, на момант, і зьнікла.

Хутка пачалі зьбірацца ў хату вялымі і зморанымі: братавая, старшы брат, бацька і вечна бадзёры, жартаўлівы— Юзік.

Бацька зноў заняўся з табакаю...

Падышоў аднекуль і наш сусед— дзядзька Мікалай.

— На, маёй закуры. Вот табачок!— Набіваецца дзядзька Мікалай сваёй табакай майму бацьку.

— Учора прынёс з гароду, а сягоньня і высахла.

— Куды твая! Вот мая, пакурыш, як чарку выпіў.

Дзядзька Мікалай распачынае, як і заўсёды, перш гаворку аб восені, што сухая і ясная, а пасьля і аб ураджаі.

— Гых, а ў Аляксеявых што за бульба, як качаны. Гэта, брат, як разьвярне табе баразну, дык там як парасяты...

Да яго амаль ніхто не гаворыць. Бацька мой паволі пераж оўвае страву і, абы сказаць што небудзь, гаворыць:

— Кажуць-жа, кажуць...

Я гляджу на бацьку і мне становіцца сьмешна,—я ўгадваю аб чым бацька думае ў гэты час. Ён думае: „ат, што табе надта дзівіцца з людзкой, калі ў самога ня горш урадзіла“. Яшчэ больш мне становіцца сьмешна, калі я прыпамінаю гаворку дзядзькі Мікалая аб сваім уласным ураджаі.

У яго родзіць найлепш як ува ўсёй вёсцы. Але ці ўродзіць у яго, ці не,—ён будзе адно цьвярдзіць:

— Дзе бачыў, суседзе, які там урод —хай яго добрыя людзі ня знаюць. Паверыш, бульба як гарэхі.

— Але,—гаворыць мой бацька, а сам у гэты час думае: „каб хацяй ў мяне такая была, як твая“.

— Кажуць, што сам скора вучыцца едзеш?—Парывае мае думкі дзядзька Мікалай.

— Скора. Прыхварнуў крыху—адказваю я.

— Але, глядзі ты, — карыстаецца сваім правам голасу дзядзька Мікалай,— глядзі ты, як цяпер усе ў навуку падаліся. Нават Раман Сымонаў і той у нейкім „рабфакту“. А даўней, бывала, дзе нашаму брату даступіцца—толькі, брат, сын аднаго пана Лычкоўскага ў бліскучых гузіках пахаджвае, а фарсіць, брат...

Я цяпер добра ведаю: на гэтую гаворку мала будзе паўночы, тут будзе перагаворана і аб паляваньні на ласёў, і аб былым графе, і аб нябошчыку паляўнічым, Стасю, і або ўсім. „Што-ж,—думаю я,— кожны ў свой век укладвае душу“ і ціха выходжу з хаты і іду праз сад па халодных, апаўшых лістох...

Яшчэ нядаўна тут адцьвіла ў белым убраньні вясна, а цяпер пасялілася восень, румяная восень... Я нагамі выкочваю з лістоў некалькі яблык. Яны крамяныя і халодныя,—і мне хачацца хоць адзін з іх зьесьці. Але баюся: можа пашкодзіць. Хвароба.

У садзе ціха і пуста... Поўны месяц выглядае з-за дрэў на зямлю, як дзіцянё, якое толькі пачынае пазнаваць. Я гляджу яму ў твар і мне хочацца сказаць, што гэта ня першы раз. Я некалі яму падморгваў, гаварыў з ім...

Гэта наводзіць мае думкі аб горадзе, аб маім цёмным кутку там, з якога заўсёды глядзела вялікая беднасьць...

Бясконцныя вуліцы, гэтае кішмя мне чужых і халодных, усё некуды сьпяшаючых, людзей,—першы раз зьдзівілі мяне, і здавалася мне, што я тут, як завязаны ў мяшку... Мне зноў жадна захацелася ўбачыць зялёнае, шырокае, бясконцна мне роднае поле, сваю дагараючую адвячоркам рэчку, сваю ціхую, з мяліньнем хату, ціхі месяц і сад... І калі мне заўсёды трэ‘было ехаць у горад, я прыбягаў вечарам на гэта самае месца і плакаў, горка плакаў, не хацеў з усім гэтым раставацца так, як некалі з нябожчыцай маткай.

Я стаю і думаю: пасьлязаўтра я еду ў горад. „Цяпер заплач“—напрашваецца думка. У адказ на яе—я пачынаю сьмяяцца і ступаю босымі нагамі па сырой і халоднай зямлі.

Недалёка пераліваецца срэбрам месяца рэчка...

---

Самым досьветкам выехалі мы з двара... Нашы ўсе спалі, толькі адна сястра ўстала найраней за ўсіх, каб прыгатаваць нам што небудзь перакусіць.

Золкае паветра хутка мяне ацьвярозіла. Пачалі разьліпацца вочы. Пачало ясна прыходзіць у галаву: „гэта-ж я еду ў горад“.

Далёка па бруку грукацяць хурманкі...

Я азірнуўся назад: чуць-чуць прыкметна ў тумане сьвецяцца аганькі. „Гэта-ж твая родная вёска“. І ў адказ на гэту самую думку пачала выплываць другая: „ну, што-ж вёска—і толькі таго:

І неяк раптам, на міг праясьнела ў галаве, і я, да вялікай шкоды, адчуў: „усё тое, што было дагэтуль, ужо няма яго.

Я прыслухаўся да душы сваёй: там холадна і пуста. І раптам зноў зьвярнулася ранейшае і паўтарыла: што было, таго ўжо няма. І ня будзе

Нешта пачало расьці-расьці, як і ў прадапошні адвячорак, і я ціха пачынаю шаптаць:

— Горад!.. Горад і вёска...—Мне становіцца радасна.

Я ўспамінаю словы сястры,—і мне шкода: чаму я неўявіў тады, што гэта не яе быў голас, а ўсяго поля...

Раптам пачуўся недзе далёка-далёка гудок... Я ў ім адчуў вялікую песьню. Мне раптам пачуўся звон жалеза, шыпеньня паравікоў.. У гэтым я адчуваю гімн працы, нешта нязвычайна вялікае... Я зноў ціха радуюся... І мне гэта роднае, блізкае... Дзіўным мне становіцца нядаўна прачытаны ў адным з журналаў верш:

...„Мяне горад душыць і давіць“...

Толькі ў горадзе і шырыня і будучыня. Бацька цмокае на каня і падсьцёбвае пугай.

Грукацяць аб брук недалёка калёсы... Шарэе ў досьвітку поле...

* * *

Мне весела сягоньня,
Мне хочацца сьпяваць,
Адзець у песьню гоні,
Абвіць ёй сенажаць.

Свабодны край мой песьняй
Зьвініць і я зьвіню,
Сягоньня на прадвесьні
Стагодзьдзяў новых дню.

Лясы-бары, загоны,
Палёў абшары, гаць,
Я клічу вас сягоньня
Са мною засьпяваць.

Завіта радасьць кветкай
У песенны вянок,
З разложыстых палеткаў
Зьнікае шэры змрок.

Ня плачу я сягоньня,
Ня плача мой загон,
Дык песьні хай зазвоняць
Ў разлогі новых дзён.

Менск.

*Міхась Блошкін.*

## Жандараў натоўп

**В. Сташэўскі**

Пад Брэстам,
Пружанамі,
Гродней
Жандараў натоўп.
Вясёлае песьні, нам роднай
Ня чуем ад нашых братоў.
Завязаны рукі,
Закуты.
Агонь-жа ў сэрцы гарыць.
Ланцуг,
Няволя,
Пакута—
Пілсудчыны майскай дары.
Шуміць
І гудзе Белавежа,
Хоць ліст яшчэ ў восень апаў,
А з вёскі турэмную вежу
Будуе
Абшарнік,
Пан
А крыўды,
А крыўды бяз конца...
Зямелька крывёю паліта.
Эй, сонца!
Вялікае сонца!
Скарэй гэту крыўду спалі ты!
Вясёлае песьні нам роднай
Ня чуем ад нашых братоў
Пад Брэстам,
Пружанамі,
Гродней
Жандараў натоўп.

*Прысьвячаю М. Л.*

* * *

Да цябе я сягоньня прыду
у марозную сінюю ноч.
Дарагая мая, не бядуй—
мы пабачымся, любая, зноў!
...Да цябе я сягоньня прыду.

Выбачай, што прыду я пазьней,
Бо ў вечары—ў клюбе даклад.
Пачакаеш мяне? Не засьнеш?—
Мо, прыду, калі згасьне зара...
Выбачай, што прыду я пазьней!

Ну—бывай дарагая—прыду!
У гэту ноч, дарагая—чакай!
На шляху, дзе бярозы гудуць
мяне выйдзеш сягоньня спаткаць?
...Ну—бывай, дарагая! Прыду!

**Сяргей Фамін.**



Разбураная белапанскімі фашысцкімі бандамі хата ў вёсцы Стара-Бярозава ў Заходняй Беларусі.

## Зялёны гай званіў...

**С. Стрыгельскі**

Зялёны гай званіў...

З жалем, з доўгім нудным звонам узьнімаліся магутныя грудзі зялёнага асілку-гаю.

Я прытуліўшыся к яго нагам, слухаў яго марудную, нудную казку—ён казаў: „Слухай, браце, многа часу стаю я тут на гэтым месцы.

Ні адно пакаленьне людзей аджыло свой век на маіх вачох. Цяжка жылося ім: вечная праца ні на сябе... крывавы пот... мазалі... а ў адплату зьнявага, катаваньні...

Цяпер тое мінула. Я пачуў шчасьлівую песьню селяніна, убачыў яго салодкую працу карысную для сябе і другіх.

Але адгэтуль я бачу далёкі заход. Там і цяпер яшчэ гуляе чорны віхар пакутнага жыцьця людзкога.

Чорныя хмары ўсё больш і завалакаюць сонца—будзе навальніца, я ведаю...

Будзьце на варце: ведайце калі падаць руку свайму брату.

Павярні сваю галаву і глянь на захад.

Ах, як там страшна!..

— Ня бойся, будзь пэўны... гукну я зялёнаму звонкаму гаю.

Рэхай пакаціліся мае словы і ў адказ на іх лес зашумеў весялей.

30—XII—26 г.

# Пыл

**Якуб Колас**

Уздоўж пяшчанае дарогі,
Дзе гурт авец прагнаў пастух,
Узьняўся пыл, нямы, бязногі,
Паветра, поўнае зьнямогі,
Не скалыхне, стаіла дух.

У проразь хвой, бы здань пажару
Штось грозіць чырвані рука,
І тоіць лес якуюсь мару.
Цёмны Заход выводзіць хмару
Ды шле зарніцы здаляка.

Зьнікае месячык двурогі,
І зоркі жмурацца ўгары.
У шатах боязьні-трывогі
Маўчаць зьнямелыя разлогі,
І ў страсе млее дуб стары.

Эх, не здарма, відаць, зарніцы
Віхрацца ў хмарах, не здарма;
Чакайце, людзі, навальніцы,
Бо перапоўнены крыніцы...
Чарнее ноч, гусьцее цьма...

І толькі пыл, адзін, маўклівы,
Бяз страху-клопату, наўсхіл,
Плыве здаволены, шчасьлівы,
Бо што яму той лёс імглівы?
Бо не падзеш ніжэй, як пыл.

Плыве пылок, бы дым-заслона
І, асядаючы на дол,
Хавае думку затаёна.
Няма тут роднага загона,
Яму чужое ўсё вакол.

# Ой, сагнуўся...

Ой, сагнуўся стан твой,
Матуля, любая.
Пабяліла косы
Ой, нуда ліхая.

Устае павольна
Прад табой былое—
Ўспомніла міжвольна
Жыцьцё маладое.

Зноў ты стройная дзяўчына
З чорнымі брывамі,
Шэрымі вачыма,
Чорнымі касамі.

Зноў пераплятаеш
Косы васількамі,
Потым аздабляеш
Жыта каласкамі.

Вось ў сям'і чужой,
Далёка ад роду,
Ты дзявочасьці сваёй
Губіш там свабоду...

Ды бяжыць за годам год.
Ты ўжо пастарэла,
Пад навалаю нягод
Каса пабялела...

Арлянятамі з гнязда
Разьляцеліся дзеці.
Ты засталася адна
Без апоры ў сьвеце...

Ды усё змагла ты—
Сілы йшчэ хапіла.
Бачыла ты краты
Бура ня скаліла.

Сыну памагала
У працы за свабоду.
Кідала адозвы
Скутаму народу.

Вось і сьцяг свабоды
Чырваньню ўзьвіўся...
Ой, стамілі годы,
Стан твой пахіліўся...

**Р. Бярэзінская.**

2/І—1927 г
г. Менск.



ВІДЫ ГОМЕЛЬШЧЫНЫ. У ваколіцах вёскі Насовіч.

# Ленін у народнай творчасьці.

**Уладзімер Дубоўка**

Валатоўная постаць Леніна, які давёў сваёй чыннасьцю магчымасьць поўнага ажыцьцяўленьня думак і здогадаў сваіх папярэднікаў аб соцыяльным, нацыянальным і экономічным вызваленьні прыгнечаных народаў усяго сьвету, які практычна зьдзейсьніў гэтыя думкі і здогады беспасрэдна кіруючы замацаваньнем дыктатуры пролетарыяту на абшарах сучаснага Саюзу ССР,—гэта постаць узьнялася над усім сьветам, як векапомны сымболь поўнага зьнішчэньня соцыяльнай няпраўды і крыўды, выклікаючы надзеі і ўпэўненасьць на перамогу ў сэрцах працоўных і шалёную злосьць з боку прыганятых, з боку буржуазіі.

Тая любоў, тое замілаваньне да асобы Леніна, якія таяцца ў сэрцах рабочых і сялян усяго сьвету, знаходзяць свой адбітак у песьнях, казках і легендах, створаных народам, створаных колектывам. Гэтыя колектыўныя творы ўва ўсіх адносінах стаяць непараўнана вышэй ад твораў шмат якіх „поэтаў“, якія лічылі сваім абавязкам напісаць памяці Леніна вершы, поэмы і г. д.

Працоўны народ у большасьці малапісьменны складае і пашырае свае творы як наагул, так і памяці Вялікага Правадыра прыгнечаных і занядбаных, галоўным чынам, шляхам вуснай перадачы, шляхам апавядальным. Для большасьці, гэтыя выдатныя творы недаступныя. І вось, у апошнія часы пісьменныя людзі пачалі запісваць на паперу вусныя творы і падаваць іх у друк.

З усёй вялікай колькасьці такіх твораў, якія створаны народамі, што жывуць далёка ад нас на ўсход сонца (татары, узьбекі, кіргізы і іншыя), вучоны Леанід Салаўёў запісаў некалькі і выдрукаваў іх у расійскай часопісі „Красная Новь“ [1])

У гэтых творах Ленін уяўляецца працоўным народам Усходу вышэй ад бога, у якога яны верылі сотні а сотні гадоў і які ня даў рады ў нэндзы іх. Багоў гэтых адкінуў працоўны народ, бо дачакаўся дапамогі ад чалавека. „Самую вялікую добрую справу стварыў Ленін—вызваліцель сусьвету... Няхай зраўняюцца з зямлёй верхавіны Паміру [1]; няхай акіян заліе гэта месца; няхай на гэтым месцы вырастуць новыя горы, якія будуць у дзесяцькроць больш за даўнейшыя; на працягу гэтага часу жалезнай хадой пройдуць стагодзьдзі па зямлі і людзі забудуцца як зваць тыя краіны, дзе жылі іх продкі, людзі забудуцца на мову сваіх продкаў,— але на імя Леніна не забудуцца яны“ — Так сьпяваюць дэхканы (сяляне) у далёкім Узьбекістане.

У другой нязвычайна прыгожай песьні сьпяваецца пра чыннасьць Леніна, сьпяваецца пра разуменьне ім асноўных запатрабаваньняў працоўнага народу, а таксама пра тыя спосабы, якімі дамагаўся Ленін вызваленьня для рабочых і сялян. У гэтай песьні дэхканы ўзводзяць Леніна вышэй ад свайго даўнейшага бога Алаха. І тое, што імя Леніна жыхары Ўзьбекістану памінаюць разам з іменем Алаха не павінна дзівіць нас, бо сотні а сотні гадоў панавалі над імі муллы (малны) і князі, карыстаючыся гэтым іменем для зьдзірства і зьдзекаў над працоўнымі.

— Войны руйнавалі сьвет, краіны. Наладжвалі іх князі і багатыры, каб узапасіцца больш грашыма, прымушаючы сялян ісьці на сьмерць. Калі Алаху абрыдла ўсё гэта, надумаў ён зрабіць зямлю шчасьлівай. Сабраў служак сваіх і пачаў выбіраць дужэйшага, прабуючы яго сілы на камені: перавярнуць трэба было камень, вагою ў шэсьцьдзесят пудоў. Адначасна трэба было адгадаць тры загадкі:

„Хто дужэйшы ад усіх на гэтым сьвеце?

Хто шчасьлівейшы ад усіх на гэтым сьвеце?

Хто самы слабы і самы бясчасны ад усіх на гэтым сьвеце?“

Многія прабавалі перавярнуць камень, але не маглі і крануць яго. Ад доўгіх спроб на камені выціснуліся кропкі. А загадкі па гэтых кропках адгадвалі так. Алі [2]) дужэйшы ад усіх, багатыры шчасьлівейшыя ад усіх, парабкі самыя бясчасныя людзі.

[1]) „Красная Новь“, Москва, Чэрвень, 1926 г № 6, стар. 188—201.

[1]) Вялікія ўзгор'і на ўсход сонца ад Туркменістану.

[2]) Старадаўні ўзьбецкі асілак.

Апрануў тады Алах дэрвішоў[1]) халат і пашоў па сьвеце шукаць вызваліцеля. Знашоў ён дужага чалавека, які перакідваў мяшкі са збожжам, як бульбінкі. Узяўся той чалавек за камень, паставіў яго стоць, але раптам і памёр падарваўшыся.

У рэшце, спаткаў ён чалавека з высокім чалом і сказаў: дай спрабую яго.

... „Ён павёў чалавека да каменя і сказаў:

— Спрабуй. Перавярні.

Калі зьняў чалавек кашулю, заплакаў Алах: у чалавека рукі былі тонкія і не яго рукамі было перавярнуць камень.

Але чалавек і не дакрануўся да каменя. Ён пашоў, прынёс два бервяны —і адно падсунуў пад камень, а другое палажыў пад першае.

І, націснуўшы на другі канец, перавярнуў камень лёгка і без натугі. І калі камень быў перавернены, з пад каменя пацякла кроў.

Алах пабачыў, што там ляжыць раздаўлены ок-ілэн [2]), які трымаў камень з сілаю сто пудоў. і не даваў перавярнуць яго папярэднім. Бо няма чалавека, які можа падняць шэсьцьдзесят пудоў вагі каменя і сто пудоў сілы ок ілэна. І задзівіўся Алах з розуму свайго выбранага, які, не ўладаючы сілай, перавярнуў сто і яшчэ шэсьцьдзесят пудоў. І задаў ён яму тры загадкі і атрымаў адказы, якія мог даць толькі вялікі мысьліцель.

— Самы дужы—самы разумны, хто карыстаецца любоўю сьвету.

Самы шчасьлівы—самы чэсны і хто даў шчасьце для многіх.

Самы бясчасны—той, каго нялюбіць ніхто.

Пабачыў Аллах, што вялікі на розум чалавек, што ў яго руках не загіне справа вызваленьня. Узяў ён яго ў свае палацы і там трымаў каля 50 дзён і 50 начэй, перадаў яму частку сваёй мудрасьці.

І паслаў яго на зямлю.

*Выбранага звалі—Ленін.*

Ленін пашоў на зямлю ў зіхаценьні сваёй мудрасьці.

І адразу спыніў крываліўства.

І зрабіў людзей шчасьлівымі.

Пасьля ён пашоў адпачываць у палацы Алаха, пакінуўшы зямлю вызваленай і шчасьлівай. І імя яго будзе жыць, пакуль жыве слова „шчасьце“...

І многа, многа розных казак і легенд стварылі людзі Ўсходу пра Леніна.

Украінскі народ, наш сусед, таксама стварыў багата казак і песень пра Вялікага Правадыра. Украінская Акадэмія Навук, як нядаўна пісалася ў газэце „Правда“, гэтымі месцамі разаслала сваім навуковым дапісчыкам адмысловыя анкеты, паводле якіх прапанавала запісваць і прысылаць ёй усе гэтыя казкі і песьні украінскаю моваю, каб надрукаваць іх пасьля ў кнігах і зрабіць дасгупнымі для ўсіх.

А як адгукнуўся на жыцьцё і працу Леніна беларускі народ?

Калі Ленін памёр, ад працоўных Савецкай Беларусі на труну яго быў узложаны вянок, на якім было напісана: „Апошняе *даруй* працоўных Савецкай Беларусі хай будзе клятваю змаганьня народаў Саюзу ССР за вызваленьне прыгнечаных працоўных усяго сьвету“. Вызваліўшыся з пад ярма паноў і абшарнікаў беларускі працоўны народ прысягаў над труною Леніна, што яго справу павядзе да пераможнага канца.

Адначасна беларусы, таксама як і суседзі, стварылі шмат розных поэтычных твораў пра Леніна. Усе чытачы „Беларускай Вёскі“, а ў першую чаргу комсамольцы і настаўнікі, павінны лічыць сваім абавязкам занатоўваць на паперу і прысылаць у рэдакцыю „Беларускай Вёскі“ гэтыя народныя творы (казкі, прыпеўкі, прыказкі, песьні, апавяданьні і г. д.), запісваючы іх слова ў слова ад апавядальнікаў, нічога не дапісваючы ў зьмест ад сябе і нічога ня зьначваючы. Трэба толькі адзначаць—ад каго запісаны той ці іншы твор, у якой мясцовасьці і г. д. [1])

Прыгажэйшыя з гэтых твораў будуць выдрукаваны ў часопісе „Чырвоны Сейбіт“, а рэшта будзе перададзена Інстытуту Беларускай Культуры.

21 студзеня 1927 г., Масква.

[1]) Жабрак—вандровец.

[2]) Страла-гадзіна, вельмі ядавітая.

[1]) У № 2-3 часопісі „Наш край“ за 1926 г. надрукована „Програма зьбіраньня вуснае народнае творчасьці“ Гэтая програма выдрукавана і асобным выданьнем. Кожны, хто пачне запісваць народныя творы, павінен азнаёміцца з ёю.

# Месячыку-месяц

**Уладзімер Жылка**

Месячыку-месяц,
Срэбненькія рожкі!
З-за хмарынкі, месяц,
Выглянi хоць трошкі,
Мгліца ў вочы лезець,
Ня відаць дарожкі,

Бедная галоўка,
Што ня мае долі:
Дажынаць сьвякроўка
Кінула на полі.

Супроць ночы цёмнай
Ледзь дамоў вяртаю —
Цішыней таемнай
Цемната пужае.
Месячыку-месяц,
Срэбненькія рожкі!

**1924. Прага.**

# Сьнегавыя дарогі

*(Адрывак з апавяданьня)*

**Кузьма Чорны**

Зусім маўчаць дрэвы; ня шумяць тонкім вецьцем, не варушацца гольлем—голыя, пры зямлі аброслыя шчуплым мохам, жаўтаватым лішаём.

А ўчора з вільготнае ральлі рваўся густы вецер і поле згінала падсохлы быльнік пры дарогах і ўзьмежках. І на ўзгорках ня відаць было птушак. Вецер, шырокімі грудзьмі прыпадаў да пасінелых ад хмурных колераў сьцен...

Лішай на дрэвах сыходзіць да зямлі, прападае ў траве. А трава цяпер халодная, ад першых маразоў пазелянелая і скрозь яе сьвіціцца зямля. І як жа яна востра пахне, гэтая шчуплая, прымарожаная трава! І якім уздымам вее зямля!—трэба моцна любіць і глыбока адчуваць, каб ведаць аб гэтым.

Неба густое, з цёмнаю сіньню, і далёка пацямнелі кусты—мусіць хутка ляжа глыбокі сьнег. А цяпер хочацца босымі нагамі адчуваць зямлю, хадзіць па траве—так, як гэта ў канцы лета, жоўтымі адвячоркамі, шырокімі днямі.

Цяпер у нас малоцяць. Пасьля пылу ў гумне, калі выйдзеш агародамі к рэчцы, нейк дзіўна, што асака пры вадзе такая самая як і летам—зялёная, жывая, толькі з пажаўцелымі вяршкамі. За рэчкаю ральля таксама мае мясцамі летні выгляд—яшчэ цёплымі днямі павылазіла з пад чорных пліт лясная трава—спрадвеку расьлі тут ядлаўцовыя кусты мы іх талакою выкарчавалі і ўвосень зааралі новы кавалак поля. І цяпер лясная трава не падаецца з першага разу—пасьля зімы многа тут яшчэ будзе работы—ральля, зялёнымі лапінамі сваімі зусім зьліваецца з фонам лесу, да якога дайходзіць. Там спакойна і вялікасна шумяць хвоі; там мякка пад нагамі і вельмі зацішна; і загэтым мусіць так прытульна здаецца на маленькім пасёлку, што некалькімі новымі хатамі прыткнуўся да гэтае сьцяны старых хвояў.

На пасёлку нясканчаныя платы, неабгароджаныя яшчэ агароды, абы як, на адну толькі зіму, зьбітыя з аполкаў хлявы, абложаныя сухім бульбянікам і кулявою саломаю—год пяць пройдзе, не менш, пакуль акуратна забудуецца пасёлак.

Тут яшчэ, бліжэй да крайняе хаты, накідана і рассыпана гліна і цяпер з суседніх хутароў прыяжджаюць браць яе каму трэба—яшчэ ў канцы лета выкапалі тут калодзезь. Тады была вялікая сьпешка—начальная работа не давала дыхнуць і калодзезь капалі сьпяшаючы, прыхваткамі. Міма калодзезя вазілі снапы і на суседнія хутары, і ў суседнюю вёску. І праяжджаючы міма, людзі пазнаму глядзелі на сьпешную работу пасёлкаўскіх хлапцоў. Асабліва гэтая неаднальковасьць востра выяўлялася ў хутаранцаў. Францішак Дылевіч, напрыклад, заўсёды нізка склоніцца і далікатна скажа

— Бога-да-помач!

— Дзядзька Дылевіч, закурым!

Францішак Дылевіч прыпыняе каняс пешна злазіць з драбін, падбягае да хлопцаў і круціць пяпяросу з іхняга тутуню.

— Да вады яшчэ далёка?

— А хто яго ведае—дыплёматычна адказвае хто небудзь з хлопцаў—мы, прызнацца, не практыкі, першы раз капаем. Будзем прасіць дзядзькі Дылеўскага, можа вы тут нам абгледзіце як і што.

І весела падміргваюць адзін аднаму.

Францішак Дылевіч, з выглядам вялікага знаўцы ўсякіх рэчаў, важна аглядае глыбока ўжо выкапаны колодзезь і заяўляе:

— Заўтра павінна пайсьці вада.

— Наўрад ці пойдзе!

І гэта гаворыцца для таго, каб прыцягнуць гаворку. Хлопцам весела глядзець на высокую і грузную, але нейкую слабую постаць дзядзькі Дылевіча. А Дылевіч яшчэ раз аглядае калодзель і трохі ўжо ня так упэўнена яшчэ гаворыць:

— Павінна пайсьці.

І падыходзіць да возу і едзе далей.

Адзін раз, назаўтра, пасьля такое гаворкі, Дылевіч вёз воз грэчкі. Хлопцы крыкнулі яму:

— Вады няма!

— Ня можа быць!.. Што-ж гэта за штука!..

І паглядзеўшы яшчэ сказаў, рашуча і цьвёрда:

— Нядобрае месца.. Суш...

— Дык-жа вакол балоты.

— Ну, бывае.

На трэці дзень пашла вада і Дылевіч сказаў:

— Я-ж казаў што зараз павінна пайсьці... Дай божа ў добры час... Цяпер, як вы сабе хочаце, а вечарынку ў сьвята павінны справіць...

І ён ўсьміхнуся добраю, чуць хітраватаю ўсьмешкаю

— Вечарынку справім... Будзем прасіць каб вы з скрыпкаю падышлі.

— А як-жа!

І ён паехаў, адчуваючы ў сабе блізасьць да гэтых вясёлых пасёлкаўскіх хлапцоў.

Зусім іначай адносіўся да пасёлкаўцаў другі хутаранец-Зыгмусь Купрыяновіч. Ён увесь час моўчкі вазіў снапы. І хлопцы яго не чапалі. Толькі раз нехта гукнуў:

— Дзядзька Купрыяновіч, ці няма запалак?

Купрыяновіч прыпыніўся і падыйшоў. Ён закурыў і сам; пачаставаў сваім тутунём хлопцаў. Пакуль закурвалі, ён сказаў:

— Капаеце?

— Капаем.

— М-гу... Дрэннае месца тут.

— Нічога, дакапаліся.

— Ды дакапацца можна, пачаўшы дакопвацца... Дакапацца ўсюды і да ўсяго можна. І да вады, і да чалавека...

— Чаго ты, дзядзька, на нас злуеш?

— Я, браткі, на вас ні за што не злую. За што на вас мне злаваць. Толькі скажу адно—можна было абрэзаць частку зямлі, а то больш за палавіны адхвацілі й дзела з канцом. Добры інтэрас!

І адышоўся, пастаяў, і паехаў паволі, пускаючы густы дым з пад тонэнькіх, кепска падкручаных, вусоў.

Пасьля ўжо ўвосень, як пачала мерзнуць зямля, шукаў ён пад вечар каля пасёлку сваіх гусей. Над колодзезем стаяў новый зруб і пасёлкавец Антось Макарэвіч нечага корпаўся там каля яго з сакераю. Купрыяновіч падышоў, цяжка шаруючы ботамі па няроўна раскіданай гліне, даў добры вечар, і сказаў.

— Значыцца, скончылі; зруб стаіць; вада свая... хаты пазабудоўвалі—усё ў парадку.

Антось Макарэвіч раптоўна разгладзіў вусы, паправіў на галаве заячую шапку і скоранька прагаварыў:

— Дзе б-бачыў, далёка яшчэ да парадку... хата-хатаю, а хлявы, а платы, а ток; ой яшчэ давядзецца пагараваць...

— Ну, яно пэўне

— Ой, яшчэ давядзецца...

— А як я ўвесь вялікі хутар забудоўваў!?

— Ну, табе было лягчэй—ты з прадвеку быў фальваркоўцам...

— Ну, фальваркоўцам то я ня быў ніколі Калі ў мяне, скажам, было якія дзесяцін трыццаць, дык гэта найбольш. Усякі ўсё, ліха яму упікае фальваркам

І сказаўшы гэта, прыпомніў, што сказаў „папросту“ і тут-та паправіўся:—Найвенц трыццаць дзесяцін. Я-ж кажу, трыццаць—дык гэта ад сілы, найвенц!

Антось Макарэвіч нешта хацеў сказаць, але Купрыяновіч кіўнуў галавой і пашоў, азіраючыся па полю. Відаць было, што ён не пакідае злаваць.

Такія былі ў нас адносіны між людзьмі.

Пасьля Купрыяновіч зусім пакінуў вітацца з пасёлкаўцамі і канчаючы ўвосень апошнюю работу на полі, калі каго ўгледзіць, адварочваецца, нібы ня бачыць. Тады хлопцы падыходзяць бліжэй, і моцна, каб чуў ён, гавораць, што на весну трэба будзе выкарчаваць кусты аж да самае рэчкі—у Купрыяновіча там каля рэчкі свая паша і яму прыдзецца наймаць другога пастуха, каб каровы яго не зайходзілі тады на чужое поле, як цяпер зайходзяць у чужыя кусты... Так і прымушаюць яго заўсёды быць злосным.

Цяпер на мёрзлым полі пуста. Толькі дзікія птушкі, чорнымі камякамі, варушацца на цьвёрдай шэрані. Неўзабаве ляжа сьнег.

# На прывольлі

**Валеры Маракоў**

Маўчала ноч...
Над сінім полем
Пунсовай кветкай месяц плыў.
Сягоньня сэрца
На раздольлі
Сьпявае гімн сваёй зямлі.

Той гімн жыве
І паліць грудзі,
Заве ізноў ў радзімы край,
Дзе між палёў
Каровы й людзі
Паталі ў шоўк зялёных траў.

І я прышоў,
Прышоў пад месяц,
На шыр-прастор сваёй зямлі.
Маўчала ноч...
Над сінім лесам
Півоні зор крывёй цьвілі.

Я бачыў іх
І ў сэрцы чулым
Спадзейна плакала струна.
І ў гэтым сьне
На поўразгуле
Я ўсё „жыцьцё“ хацеў абняць.

Каб зноў сьмяяцца
І ў зацішы
Усё сказаць, чым тут жыву,
Як вецер возера калыша,
Куды вятры мяне завуць.

Сказаць так проста і прыгожа,
Як я гляджу на новы дзень,
Каб ў моры траў
І ў моры збожжа
Было на радасьць больш
надзей.

Каб на прывольлі,
Пры даліне
Хто небудзь выйшаў і сказаў
Што тыя песьні для краіны,
Складалі возера й лаза.

А я?—
Я толькі іх падслухаў
І ў глыбіні маёй душы
Трывожна,
Радасна і глуха
Вясна і шчырасьць хочуць
жыць.

---

## Сьмяецца месяц...

**С. Шушкевіч**

Сьмяецца месяц залаты
У срэбна-сіняй зорняй далі
З таго, што шэрыя платы
У шапках беленькіх паталі,
Што дрэвы срэбнае гальлё
Схілілі ціханька да долу,
Што ўся зямля гарыць агнём
Ад сьнежных зорак брыльянтовых.
Сьмяецца месяц... Цішыня
Ўсё маўклівасьцю скавала
І толькі весела скрыпяць
Палозьзя лёгкіх нашых санак.
А конь падняўшы галаву
І ўзмахнуўшы буйнай грывай
Бяжыць. І бачыш - патануў
Лясок за горкаю ў лагчыне.
Ізноў гара, а дальш за ёй
У лагчыне ціха дрэмлюць вербы,
Пад імі сьнег і сіні лёд
Абрус над рэчкай сткалі зрэбны.

## Дзяўчыне

**Быкоўскі**

Ты казала: - заўсёды сьмяюся,
А ў вачох тваіх восені плач.
Ой, і шмат васількоў ў Беларусі,
А такога яшчэ я ня бачыў..

З дзіўным пахам хваёвых лясоў
Ты прышла, атуманена казкай.
Мары выткалі шлях-паясок,
Спавілі і пяшчотай і ласкай.

Ты сьмяешся, а смутак на твары.
Вусны вабяць, як папарць дзівосны.
Я ня ведаў цябе, а ўжо марыў,
Што затчэш мае думкі ты ў кросны.

А чаму? І сама не адкажаш.
Вочы сьлёзы крышталяць скрозь сьмех.
Ой, і шмат каму сэрца ты зьвяжаш,
Ну, а мне?—ты зьвязала ўжо мне.

**В. Папыкаўшчына**
**Полацкае акругі.**

# Першая беларуская кіно-карціна „Лясная Быль“.

У шэрагу з тымі культурнымі посьпехамі, якія былі адзначаны беларускай грамадзкасьцю ў 1926 годзе (20-годзе літаратурнай дзейнасьці Якуба Коласа, 5-годзе Дзяржаўнага Універсытэту, 3-годзе „Маладняка“, першая беларуская акадэмічная конфэрэнцыя і інш.), мы сьвяткуем яшчэ адно буйнае дасягненьне на культурным фронце нашага савецкага будаўніцтва —„Лясная Быль“.

Быт і барацьба беларускага сялянства за лепшую долю, багатая, але разам з тым родная і блізкая прырода знашлі ў ёй сваё сапраўднае адбіцьцё, ад карціны нясе араматам беларускіх палёў і лясоў.

Нельга не адзначыць і таго, што карціна носіць рэзка выражаны вясковы характар, што яна будзе блізкай і зразумелай сялянскаму гледачу. Гэта тым каштоўней, што савецкая вёска наогул, а наша беларуская ў асаблівасьці, не багаты добрымі карцінамі. У гэтых адносінах „Лясная Быль“, зьяўляецца першай сялянскай карцінай ня толькі ў беларускім, але і ў маштабе нашага Саюзу.



Менск у руках чырвоных. Нарада рэволюцыйнай тройкі т. т. Адамовіч, Чарвякоў і Кнорын. Збоку стаіць першы паўстанец — Андрэй



Польскі разьезд злавіў на дарозе паўстанца-селяніна Андрэя. Андрэй быў цяжка катаваны і кінуты ў турму панскімі жандармамі



Атрад паўстанцаў вызваляе з турмы злоўленага Андрэя. На малюнку: забіты жандар - вартаўнік Каля забітага Андрэй - герой „Лясной былі“ на волі.

„Лясная Быль“ прадстаўляе сабою гэроічную поэму, але поэму без гэрояў. Аднак, гэрой ёсьць але гэты гэрой не магутная асоба, вакол, якой, як каля стрыжаня разьвіваюцца падзеі, а колектыў, бяз'іменная маса, у магутным уздыме творыць свой ўпадаюць нашы рэжысэры, браўшыяся за тэмы грамадзкае вайны: гэрой, выказваючы цуды адвагі і і мужаства і маса-пакорна цягнучаяся ў хвасьце падзей. У гэтым напрамку „Лясная Быль“ выгодна адрозьніваецца тым, што маса ў ёй грае актыўную



Польскія салдаты абыходзяць спрадвечны лес, дзе хаваліся сыны — зьняволенай Беларусі, паўстанцы — мяцежнікі.



Польскія жандары катуюць сялян, у якіх пазнаходзілі адозвы аб вызваленьні з-пад панскага прыгону.



„Грышка Сьвінапас“ — мяцежнік беларускіх лясоў з лясьнікам і яго дачкою Гэлькаю ў вастрозе.

лёс. Прыходзіцца ў вялікую заслугу паставіць рэжысэру тое, што ён выразна адбіў у карціне соцыяльны характар партызанскага руху на Беларусі, што ён убярогся ад таго шаблёну, у які так часта ролю. Сцэнарыем для карціны паслужыла аповесьць М. Чарота „Сьвінапас“. Зьмест карціны наступны:

1920 год. На Беларусі пануюць паляки. Цесны саюз паноў, ваеншчыны і ксяндзоў держыць у

сваіх руках усю беларускую рабоча-сялянскую масу, і як толькі хочуць над ёю зьдекуюцца. Дзеяньні разгортваюцца ў маёнтку пана Драбскага, у якім знаходзіцца штаб польскае арміі. Карыстаючыся гэтым, „яснавельможны" пан бязьлітасна эксплёатуе сялян вакалічных вёсак, адрывае іх у самую гарачую пару ад працы і застаўляе працаваць на сваіх абшарах. Бізунамі польскіх катаў аднаўляецца на Беларусі прыгоннае права.

А ў гэту-ж пару ў пышным польскім палацу ідзе бесклапотная, сытае і распуснае жыцьцё. Сам пан Драбскі, „сьвяты айцец", спатайку аддаючы увагу жаночым прыгожасьцям эканомкі, дачка памешчыка досыць часта захопліваемая ў абдымках ліхіх ад'ютантаў ці якога небудзь іншага офіцэра, палкоўнік ня дурань выпіць, — уся гэта цёплая кампанія вясёла і шумна праводзіць час, пад абаронай штыхоў польскіх „жолнераў".

Але беларускі селянін, ужо перажыўшы Кастрычнікавую рэволюцыю, рэволюцыю даўшую яму зямлю і волю, якая прыцягнула яго да ўдзелу ў будаваньні маладое савецкае рэспублікі, зразумела са ўсім гэтым ня мог пагадзіцца і ён распачынае ўзброеную барацьбу за сваё вызваленьне. Кіраўніком барацьбы быў прысланы партыйнымі організацыямі рабочы Сьцяпан, які ў раёне маёнтку пана Драбскага організоўвае партызанскія атрады. Масамі ўступаюць у іх сяляне, старыя і маладыя, узбройваюцца чым папала, і ідуць у лес. Шчырым памоцнікам Сьцяпана зьяўляецца панскі сьвінапас Грышка. Ён распаўсюджвае проклямацыі, служыць жывою сувязьзю паміж паасобнымі партызанскімі групамі.

Сілы партызанаў тым часам растуць і робяцца ўсе больш і больш страшнай пагрозай для белапалякаў. Каб падтрымаць сваю падаючую ўладу, палякі прыбягаюць к масаваму расстрэлу сялян западозроных у спачуваньні паўстанцам. Але ўсё гэта ім мала дапамагае. Паўстанцкі рух пашыраецца. У гэтую-ж пару чырвоныя войскі прарываюць фронт. У адной з вёсак, дзе палякі намерваюцца ўчыніць „суд" і расправу над ні ўчым непавіннымі сялянамі нечакана зьяўляецца атрад паўстанцаў. Палкоўнік забіты, памешчык і яго сям'я ў перапалосе бягуць з свайго захопленага полымем паўстаньня маёнтку.

Што робіцца ў гэту пору ў Менску? Палякі, цясьнімыя Чырвонай арміяй, у беспарадку пакідаюць Менск, не забыўшы перад адходам учыніць чарговы яўрэйскі пагром. У сталіцу Беларусі ўступаюць чырвоныя войскі. Улада пераходзіць у рукі рэўтройкі ў асобе т. т. Адамовіча, Кнорына і Чарвякова.

К тэхнічным дасягненьням карціны трэба аднесьці добрую фотографію, асабіва ўдалыя здымкі прыроды, добрую гульню артыстых, якія даюць сапраўдных тыпаў.

Застаецца толькі пажадаць, каб беларуская вёска скарэй убачыла сваю першую кіно-фільму.

**С. Б. і К.**

# Ад драматычнага гуртка да Дзяржаўнага Тэатру

Невялічкі драмгурток у 1920 г., у момант устанаўленьня Савецкай улады на Беларусі, організаваўся ў Менску, на чале якога стаў Галубок.

Працуючы ў беларускім рабочым клюбе, гэты гурток шырока павёў сваю працу сярод мясцовага жыхарства і чырвонай арміі. Асаблівую ўвагу гурток зьвяртаў на Чырвоную армію і ставіў як найчасьцей спэктаклі для чырвонаармейцаў.

Праца гуртка—час-ад-часу значна пашыралася, вялікае запатрабаваньне на беларускія спэктаклі было сярод рабочых фабрык і чыгунак.

І вось гурток павёў сваю працу на Камароўцы, Пярэсьпе, Ляхаўцы, на чыгунцы, а часамі ў блізкіх вёсках і мястэчках.

Склад драмгуртка быў пераважна з рабочых фабрык і сав. служачых, якія ў дзень працавалі пры рабочых варштаках, а ўвечары працавалі сярод сваіх-жа рабочых, ставячы для іх спэктаклі.

Штогод лік спэктакляў усё павялічваўся і драмгурток відавочна стаў расьці і ператварацца ў трупу.

Пасьля 6-ці гадовага існаваньня, і пасьля таго, як трупа паказала сваю працаздольнасьць, выпаўніўшы заданьні НКА па абслугоўваньню вёсак і мястэчак па БССР, трупу ў 1926 г. залічаюць на Дзяржаўную дапамогу і даюць ёй назву: Дзяржаўны вандроўны тэатр.

Тэатр сябе выявіў і паказаў. — У 1925 годзе, тэатр за лета абслужыў Мазырскую акругу, а затым пабываў у самых глухіх закутках Барысаўшчыны, праехаўшы коньмі 875 вёрст, і паставіўшы больш за 100 спэктакляў.

У 1926 годзе тэатр таксама з самай раньняй вясны выправіўся ў дарогу і праз усё лета працаваў па мястэчках і вёсках БССР, а затым праз усю восень працаваў на Гомельшчыне, і такім чынам, паставіў за лета больш, як 150 спэктакляў.

У жніўні месяцы г. г. скончылася 6-ці годзьдзе існаваньня гэтага тэатру, лік дадзеных спэктакляў даходзіць да 1500. Гэтая лічба спэктакляў яўна сьведчыць аб працаздольнасьці тэатру і яго сіле. Склад артыстых вандроўнага тэатру даходзіць да 30 асоб. І яны абслугоўваюць тэатр ува ўсіх галінах.

Цікава тое, што ўсе гэтыя 30 асоб умеюць і сьпяваць і скакаць, а таксама граць на музычных струмантах.

Яны і артысты, і харыстыя—яны складаюць і балет, яны і музыканты.

**Свой.**

# БІБЛІОГРАФІЯ

## Як ня трэба пісаць гісторыі.

**Інстытут Беларускай Культуры. Гісторыя ўзьнікненьня. Сучасная структура. Навукова-дасьледчая дзейнасьць. Дзярж. Выдав. Беларусі, 1926 г. 118 стар., цана 2 р. 20 к.**

Інбелкульт пусьціў глыбокія карэньні ў Беларусі, грунтоўны характар і зьмест яго працы вядзе да далейшага яго разгортваньня: афармленьня ў выглядзе Беларускай Акадэміі Навук.

Аб гэтым у нас ня раз гаварылі на розных сходах і пасяджэньнях і дакладвалі ў належных установах кіраўнікі Савецкай улады і комуністычнай партыі.

Гаварылася і аб тым, што Інбелкульт—гадунец Кастрычнікавай Рэволюцыі. Усе мы добра помнім, як многа працы і клапот палажылі на належнае адбудаваньне Інбелкульту і компартыя, і Савецкая ўлада (асабліва Наркомат Асьветы).

Для ўсіх нас гэта—аксіома. Затое інакш аб гэтым думае аўтар уступнага артыкулу „гісторыі ўзьнікненьня ІБК"—Ал. Цьвікевіч.

На 28 старонках артыкулу аўтар даказвае, што беларуская інтэлігенцыя сама, без аніякай дапамогі адбудавала Інбелкульт.

„Першая думка аб заснаваньні Інстыт. Белар. Культуры паўстала на сходзе беларускіх культурнікаў 27 студзеня 1921 г."... (9 ст.)

„У будынку Камісарыяту Асьветы ў гэты дзень сабралася грамада каля 50 беларускіх культурнікаў... Быў заслухан даклад С. Некрашэвіча... з якога вынікала, што.. Інст. Бел. Культ.—„гэта ўстанова" (чытай—організацыя беларускіх культурнікаў)... павінна згуртаваць усе беларускія сілы, дзе-б яны ні знаходзіліся... **і быць адказнай за культурную справу на Беларусі"**.

Роля-ж Наркамасьветы, як органа Савецкай улады, які праводзіць ў жыцьцё дырэктывы комуністычнай партыі шляхам організацыі і кіраўніцтва культурна-асьветнай справай на Беларусі, зьведзена аўтарам да таго, што НКА толькі дае свой будынак для сходаў „беларускіх культурнікаў".

Ідэя аб стварэньні Інбелкульту ў 1921 г. „рэалізавалася (1921 г.) у форме асобнай „Навукова-тэрмінолёгічнай камісіі"... **пры** Камісарыяце Асьветы (па ўсяму контэксту думак аўтара), як-бы самастойна-аўтаномны орган.

А на справе—гэтая „камісія" была створана Наркамасьветы, і яна існавала ня толькі **пры** НКА а і ўваходзіла ў склад НКА, як органічная яго частка, з адпаведным для яе штатам. Больш таго, спачатку яе існаваньня і на чале Нав.-тэрм. камісіі стаяў адказны сакратар НКА.

Аўтар аб гэтым, чамусьці, ня ведае і ўсё больш захапляецца працай адзінак над пабудаваньнем ІБК.

„Сябры Нав.-тэрм. кам. з выключнай адданасьцю заняліся працай"... і „часам ахвотна браліся за свае абавязкі".

Даецца, нават, гэроічны прыклад:

„Адзін з іх (сяброў), захварэўшы на плеўрыт, пісаў са шпіталю... просьбу прэзыдыуму Камісіі... бо вельмі хочацца, хаця-б лежачы, папрацаваць на карысьць нашай пільнай справы" (10 ст.).

А Наркамасьветы, па думцы аўтара, ня толькі што не праявіў жывой ініцыятывы ў Нав.-тэрм. кам. (зародаку І. Б. К.), а нават і ў працы „Камісіі" быў праступна нядбайным. Тым больш, што на плеўрыт не хварэў і ў шпіталі не ляжаў!..

Аўтар, усё-ж, не такі бязьлітасны да НКА, бо, нават, хваліць НКА за тое, што ён **дапамагаў** прэзыдыуму Камісіі (10 стар.).

„Прэзыдыум Камісіі, **пры дапамозе НКА**, імкнуўся забясьпечыць сваіх супрацоўнікаў чым толькі мог: і кнігамі, і паперамі, і апалам"...

На справе ўсю гэтую дапамогу, зразумела, рабіў ня хто іншы, як НКА, а не Камісія...

Дальш-больш...

Як незалейцаны конь, аўтар шырока імчыцца па аблюбаванай ім дарозе.

Калі праца „Нав. Тэрм. Кам." шырока разгарнулася і паўстала патрэба рэорганізаваць „Камісію" ў „Інбелкульт", то зноў, чамусьці, уся ініцыятыва належыць асобным беларускім культурнікам:

„Рад асоб заняўся апрацаваньнем статуту будучага Інстытуту, а калі проэкт быў прадстаўлены (Каму? ці не беларускім культурнікам?), то яны „адбывалі, кожны па свойму, цэнтральнае разыходжаньне, якое азначы ася паміж беларускімі культурнымі працаўнікамі яшчэ на сходзе 27 студзеня".

У канцы-канцоў, „у пачатку 1922 г. быў заснаваны Інстытут Белар. Культуры (ст. 11.).

І зноў выходзіць, што НКА не праяўляе аніякай ініцыятывы ў апрацоўцы статуту будучага Інбелкульту, ня грае ніякай ролі ў вырашэньні пытаньня аб разыходжаньнях проэктаў статуту і, нават, у заснаваньні „Інст. Бел. Культ.".

У тыя часы мы як раз працавалі ў НКА і можам упэўніць аўтара, што без ініцыятывы і кіраўніцтва НКА „Інст. Б. К." ня быў бы створаны...

Далей, у 1922-24 г. г. Ін. Б. К. вядзе вялікую працу ня толькі тэрмінолёгічнага характару, але і навукова-дасьледчую і культурную (ст. 11).

А дзе-ж кіруючая роля НКА, у складзе якога ІБК знаходзіўся? Няўжо-ж аб гэтым нічога ня сьведчаць тыя гістарычныя дакуманты ўтварэньня ІБК, па якіх аўтар пісаў сваю „гісторыю"?

Вось сланага-то, гэтых самых дакумантаў,—аўтар нешта не заўважыў.

Але гэта яшчэ ня ўсё.

„Інбелкульт" (у тэндэнцыйным асьвятленьні аўтара—аб'яднаньне нейкіх ад НКА адарваных беларускіх культурнікаў) зрабіўся ў тыя часы асяродкам беларускай навукова-культурнай думкі. Ня было тае галіны ў культурным жыцьці рэспублікі, у якой не адчуваўся-б яго ўплыў.

Гэта добра, што ІБК зрабіўся такім асяродкам.

Але дрэнна, што аўтар не заўважыў, пад чым-жа ўплывам сам ІБК працаваў у тыя часы, як не заўважыў гэтага аўтар і раней...

Узносячы ўвесь час ІБК „да нябёс", аўтар прыпісвае яму і тое, што ІБК ніколі не рабіў.

„Па ініцыятыве ІБК організавана было выдавецтва беларускіх кніг за граніцай" (у Нямеччыне).

Фактычна-ж гэта было зроблена компартыяй і вышэйшымі савецкімі ўстановамі.

„Па яго (ІБК) ініцыятыве заложана было выдавецтва „Савецкая Беларусь".

— Фактычна організацыя выдавецтва „Сав. Бел.“ ёсьць справа пайшчыкаў—НКА, НКЗ і Цэнтрабселсаюзу.

„Апрацаваньне і крытычны разгляд програм школ БССР“.

— Гэтую справу праводзіў НКА, а калі ён і прыцягваў з ІБК некаторых спэцыялістых па ўкладаньню школьных програм, дык яны працавалі ў камісіях НКА, як спэцыялістыя, а не як прадстаўнікі ІБК

Акрамя гэтых прыкладаў, у кніжцы досыць і іншых няправільных (але менш вартых, таму мы на іх і ня спыняемся) фактаў; ёсьць „блытаніна“ (Гаўрыла Гарэцкі, чамусьці, лічыцца ў членах-корэспондэнтах).

Наогул у асьвятленьні аўтара, ІБК, з пачатку свайго існаваньня да 1924 г., ня гледзячы на шырокі размах яго каштоўнай працы, выглядае нейкай **бяспрытульнай сіратой** Савецкай краіны, працы якога, быццам, не заўважылі вышэйшыя партыйныя і савецкія воргany.

І зусім неяк выпадкова „ўздым працы ІБК і тая роля, якую ён пачаў адыгрываць у культурным жыцьці Савецкай Беларусі, **былі заўважаны і вызначаны з боку вышэйшых органаў ужо ў сярэдзіне 1924 г.** (13 стар.).

Дзіўна, дзе-ж раней былі гэтыя ўстановы. А можа іх і ня было?!

Яны былі, усё заўважылі, своечасова кіравалі. Але аўтар чамусьці не адшукаў кіраўніцтва партыйных і савецкіх устаноў ІБК. Вось чаму, паводле аўтара, выходзіць, што ўтварэньне ІБК ёсьць справа не партыйных і савецкіх органоў БССР, а паасобных беларускіх „культурнікаў“.

Мы высока расцэньваем тую вялікую працу, якую праводзіць на Беларусі інтэлігенцыя пад кіраўніцтвам ком. партыі і савецкай улады (асабліва —Наркамасьветы) і не зьбіраемся яе недаацэньваць. Свае заслугі ў галіне адбудаваньня Савецкай Беларусі добра ведае і сама інтэлігенцыя. Вось чаму зусім не патрэбна прыпісваць ёй тое, чаго яна не рабіла, ня трэба зробленую інтэлігенцыяй працу пераацэньваць.

**Р. Ш. Т—р.**

## ПАЗНАЁМСЯ З ПЛЫВУЧАЙ КРЭПАСЬЦЮ!

**„ПАРЫСКАЯ КОМУНА“, лінейны карабель Балтыцкага флёту, падшэфны комсамолу Беларусі. Зборнік матэрыялаў пад рэдакцыяй А. Курціка, выдав. „Чырвоная Зьмена“ 1927 г.**

За апошнія часы адчуваецца памяншэньне зацікаўленасьці з боку комсамольскіх ячэек да падшэфнага нам флёту, а то ў гэтай галіне мы і зусім „ляглі ў дрэйф“.

І гэта ў той час, як пагроза нападу на Савецкі Саюз наўхільна ўзрастае.

У той час, як патрэбна стала пропаганда ў гуртках ваенна-марскіх ведаў і ва ўсёй пазашкольнай працы комсамолу, мы, у лепшым выпадку, займаемся агітацыяй, асабліва калі прыедзе ў водпуск на нейкі тыдзень „свой“ марак.

Мы добра ведаем, як дрэнна жылося чорнаморскім маракам дваццаць год назад—бо мы бачылі „Браняносец Пацёмкін“ (кіно-перасоўкі прасунулі яго ў самыя далёкія куткі Беларусі), як стагналі балтыцкія маракі—бо чыталі ўспаміны Дыбенка аб царскім флёце.

Як жывыя, устаюць перад вачмі „скитальцы морей, застольные гости громовых пиров, орлиное племя“—маракі „бессмертного 1917 года“, дзякуючы моцнаму па размаху вершу В Кірылава, „Матросы“.

А вось аб падшэфным нам караблі „Парыская Комуна“ мы маем толькі выпадковыя весткі.

Зборнік які мы рэцэнзуем якраз і дае магчымасьць стала азнаёміцца з падшэфным нам караблём. Ён дапаможа моладзі (як гэта і адзначае ў сваёй прадмове да брошуры сакратар ЦК ЛКСМБ т. Бараньнік) азнаёміцца з жыцьцём падшэфнага судна і бязумоўна, дасьць значны штуршок да ўзмацненьня шэфскай працы. Бо рознастайныя артыкулы ахапляюць усе бакі жыцьця карабля, добрыя малюнкі дазваляюць лёгка зразумець і самы карабель, увайсьці ў курс гэтай, адухатворанай комсамолам, падвіжной плывучай крэпасьці, заўсёды падрыхтаванай да абароны Савецкага Саюзу

**Сара Маршак.**

## На новых шляхох палачане...

**„Наддзвіньне“, літаратурна-мастацкі альманах Полацкай філіі „Маладняка“, Полацак, 1926 г., 120 стар. 50 кап.**

Здаецца яшчэ так нядаўна поэты сьпявалі праславу Полацкае Русі.

А цяпер пяюць аб яе цяжкай долі:

„Цябе гісторыя ў свае скрыжалі
ўпісала гранямі руін.
Ні кроплі літасьці, ні іскры жалю
твае не ведалі стразі.
Муры Рагнедзіны, сьцяг Раўгалодаў,
шчыты нарманскіх караблёў...
Бандыты Захаду, цары Ўсходу
тваіх грудзей грамілі бронь!
Чужынцы з ніў тваіх зьбіралі зерне.
Каралі гневам і вайной...
Цябе Рэспублікі, цябе імпэрыі
таптаралі кованай пятой.
І попел хат тваіх, твае заветы
праносіў з болем між вякоў. (А. Дудара)

Цяпер Полацак з яго вялікім гістарычным мінулым, Полацак, дзе радзіўся першы беларускі друкар Францішак Скарына, Полацак—сталіца былой Полацкай Русі на руінах мінулага, на руінах іезуіцкіх кляштароў і „православных церквей“ будзе новае жыцьцё.

Але спадчына мінулага засталася яшчэ і часамі ворожа цякае „Носитель былого величия“. Яскравым прыкладам гэтага можа служыць чорнасоценскае, вялікадзяржаўна-шовіністычнае выступленьне ў друку Пшчолкі, які сам паходзіць з Полаччыны (мешчанскае жыцьцё гэтых шовіністых, надта добра намаляваў Александровіч у вершы „Дзьвіна“). Цяжка працаваць у такіх умовах...

Але Комуністычная партыя паказала правільны шлях гэтай працы. За партыяй пашло ўсё найбольш сьвядомае з беларускае і інтэлігенцыі.

— „Пажадаю вам, палачане і палачанкі, каб тая першая падумка вашага славутнага вучонага Ф. Скарыны, што для „люду посполітого“ трэба пісаць кнігі на яго простай, зразумелай для яго мове, была заклікам да працы над экономічным і нацыянальным адбудаваньнем нашае многапакутнае бацькаўшчыны.

Хай заціхнуць званы сафійскія і ім падобныя монастырскія званы, якія званілі славу князём, царом і астрогам, а няхай зьвіняць у вас вечна песьні радасьці і волі нязьмеранай і дакаціцца гэтыя песьні вызваленьня аж туды - за пагранічныя слупы, дзе яшчэ вашы браты і сёстры цягаюць ланцугі соцыяльнай і нацыянальнай няволі.

Пажадаю вам, таварышы, дружна трымацца таго сьцягу, які вам дала вялікая пролетарская рэволюцыя, а на варце і абароне якога стаіць праўдзівая барацьбітка за вызваленьне працоўнага люду ўсяго сьвету, - комуністычная партыя“. Так вітаў палачан, у Полацку народны песьняр Янка Купала. „Наддзьвіньне“ якраз і зьяўляецца каштоўнай для „люду посполітага“ кніжкай.

Бо:

мова яе—зразумела,

зьмест—вытрыманы, да барацьбы за лепшае жыцьцё заклікаючы.

„Нейкімі другімі мы выходзім у людзі,
нейк болей сілы ў плячох, руках...
(Язэп Козік—„Настрої“).

„Няхай у палёх маіх адвагай радасьць пеніць,
Каб крыўды й журбы не засталось нідзе“.
(Пятрусь Броўка. „Ня буду я стаяць на раздарожжы“).

„Пойдзем усе мы напёрад
К радасьці вольнага дня“.
(Тарас Хадкевіч „Сугучнасьць“).

А калі да гэтага бадзёрага настрою дадаць яшчэ мастацкія вершы аб Дзьвіне, Полацку, Скарыне і інш. часова жыўшых там маладнякоўцаў Александровіча, Дудара, Шукайлы, моцны покліч Янкі Купалы („Акоў паломаных жандарм“...), дадаць цікавыя апавяданьні, з якіх відаць што горад робіць належны ўплыў на веску вучыць яе, жыць новым жыцьцём.

(„Была радасьць у стальным говару калёс заводу, што стаў родным і блізкім за тры гады...
Было шчасьце ў няўмочным рытме горадзкога руху і жыцьця“.
— „Сьцежкі Крывыя“—П. Алёсіна).

— зразумелым робіцца захапленьне Алёся Звонака:

„У сіняе сёньня, у лілёвае раньне
Савецкай радзімы вітаем зару
Сягоньня на новых шляхох палачане,
Сягоньня ня новых шляхох Беларусь“.

Цікаваму зьместу значна спрыяюць добрыя малюнкі, фотографіі.

К недахопам зборніку трэба аднесьці нацыянал-дэмократычны ўхіл у асобных вершах (асабліва—у П. Шукайлы). Незразумела для нас, тое, чаму гэта ў Алёся Звонака, маладнякоўца, існуе сіняе сёньня, сьветлае заўтра.

Наогул-жа над зборнікам многа і ўважліва папрацавалі.

**Р. Ш.—Тр.**

# Літаратурная творчасьць К.М. Міцкевіча (Якуба Коласа)

**Зборнік артыкулаў. Выданьне Камісіі па ўшанаваньні ў Маскве дваццацігодзьдзя літаратурнае і грамадзкае чыннасьці К. М. Міцкевіча (Якуба Коласа). Масква 1926 г. 8°. 96 ст.**

Беларусая камісія ў Маскве не абмяжоўваючыся толькі ўрачыстымі абходзінамі юбілею Якуба Коласа выдала вельмі старанна і акуратна зборнік крытычных артыкулаў, прысьвечаных творчасьці нашага вялікага песьняра. Праўда, шмат якія бакі творчасьці Якуба Коласа зусім не адбіты ў зборніку—упушчана драматычная творчасьць пісьменьніка, яго эпічная поэма „Новая Зямля“. Але сама рэдакцыя зазначае ў прадмове, што разьмеры зборніка не дазволілі высьвятліць творчасьць песьняра ўсебакова.

У зборніку прынялі ўдзел шэсьць аўтараў.Шастакоў у артыкуле „Да дваццацігодзьдзя літаратурнай чыннасьці Якуба Коласа“—сьпыняецца на Коласе як грамадзяніне, на соцыяльнай значнасьці яго поэзіі.

Характэрыстыцы творчасьці паэты прысьвечаны радкі проф. Растаргуева „Творчасьць Як. Коласа“. Мы спадзяваліся ад Растаргуева куды большага. Нічога новага ў сваім артыкуле ён ня даў.

Юрка Бярозка даў спробу морфолёгічнага аналізу „Сымона Музыкі“. Аўтар выявіў сябе здольным дасьледчыкам з не малою эрудыцыяй, пад рукою якога ажыў формальны метод літарат. дасьледаваньня.

Карыстаючы з мэтадалёгічных прыёмаў формалістых падышоў да разгляду лірыкі Як. Коласа і К. Якаўчык. Аўтар адзначае блізасьць Як. Коласа да народнае поэзіі, вялікую мастацкую вартасьць яго вершаў: яны простыя, беспасрэдныя, шчырыя па сваёму тону і вельмі далёкія ад ухілу ў формалізм, як самамэту.

Каштоўны крытычны артыкул аб „Мастацкай прозе Як. Коласа“ даў Ул. Дубоўка. Праўда, з усімі палажэньнямі Дубоўкі ў жадным разе ня можна пагадзіцца. Бясспрэчна, напрыклад, што раньні Як. Колас быў пад уплывамі народніцтва і ня варт даводзіць праціўнае. Шмат пазьней толькі зразумеў Колас значэньне і роль пролетарыяту ў рэволюцыйным і соцыяльна-вызвольным руху.Раньнія яго сымпатыі і надзеі цесна злучаны з вёскай і астаюцца нявызначанымі ў адносінах да горату. Паказаць на „общину“ і сказаўшы, што яе ня было на Беларусі, сказаць, як робіць Ул. Дубоўка, што Якуба Коласа таму нельга прылічыць да „народніцтва“, бо „община“ галоўная тэма народніцтва, ня будзе правільным. Тут і цытаты з Плеханава не памогуць.

Можна было б абыйціся і без прагнозу на будучыню, зусім не матэрыялістычнага характару, аб „ушэсьці(?) беларускага творчага духу, які зьяўляецца „сынтэзам думкі Ўсходу і дзейнасьці Захаду“ (85 стар.).

Зборнік, заўважвае рэдакцыя ў прадмове, прыстасаваны да ўжытку ў беларускіх школах і культурных установах на абшарах РСФСР. Бязумоўна там ён прынясе карысьць, але акрамя таго ён зьяўляецца новым укладам у крытычную літаратуру аб Коласе да гэтага часу даволі бедную. Таму ня гледзячы на некаторыя недакладнасьці зборнік трэба вітаць.

**Х.**

## Творым жыцьцё новае

**„Пачатак" Зборнік Віцебскай філіі „Маладняка", Віцебск, 1926 г. 178 ст., 50 кап.**

„Пачатак" — гэта першы наш сьпеў, наша першая музыка новаму, сьветламу жыцьцю змаганьня і перамогі, творчай радасьці і дасягненьняў, што прынёс на Беларусь Вялікі Кастрычнік (з прадмовы Я. Мазуркевіча).

Віцебская філія „Маладняка" мае 25 сяброў.

Палавіна іх прыняла ўдзел у зборніку. Яны пяюць і расказваюць, што, здаецца, было яшчэ так нядаўна:

„Мы ўставалі з сонцам. Дробную каняку
Упрагалі хутка ў поршабытны плуг.
Працавалі много, але нам падзякай...
Нам было падзякай лупцаваньне пуг.
На працягу жыцьця — з веку так вялося —
Скіне дзед ярмы, — узьдзене сын — бядяк".
(А. Моркаўка).

Але старое ужо ўмірае, хоць і не без барацьбы. віцебчане расказваюць аб барацьбе старога з новым. аб пабедах новага жыцьця:

„У нядзелю ў царкву плятуцца
Усе бабы і дзеўкі вясковыя,
А ў школе, у канцы вуліцы
Красуецца жыцьцё новае".
(А. Жукоўскі).

Праз грамадзянскую барацьбу здабылі мы сваю лепшую долю. Не дарма-ж загінула ў гэтай барацьбе комсамолка Галя (драматычныя малюнкі Я. Цікавага), памёрлі скатаваныя панамі Піліп Цыбуля і Бурак, не дарма змагаўся Алесь („Зьдзекі" Мазуркевіча), захаплялі бранявік партызаны („Бранявік" Мазуркевіча)...

Новае жыцьцё пачынае красаваць на вёсцы. Праўда, шмат яшчэ ў нас гулянак з выпіўкай, на якія нават комсамольцаў і цяпер яшчэ „ногі самі нясуць". Бо жывуць яны далёка ад гораду, кіраўніцтва амаль ні адкуль няма, вечная цяжкая праца, забыцца хочацца... (Ганна Базыленка „Гулянка").

Але гэтакія гулянкі моладзь ужо пачынае кідаць, пачынае жыць пановаму.

„Бывцам тое-ж балота імшыстае,
Бывцам той-жа жняі галасок,
У гары — неба чыстае, чыстае,
І між жыта мяжы паясок.
Але новыя песьні зьвіваюцца,
Ды сасоньнік узьняўся другі,
Ды са твараў сялянскіх змываюцца
Кросны доўгай сялянскай тугі".
(А. Моркаўка).

Наогул „Пачатак" наскрозь праніцан цьвёрдай упэўненасьцю, што старое дапявае свае апошнія песьні.

Вялікае дасягненьне зборніка - тое, што вершы займаюць усяго 70 старонак з 178 — празаічная творы пачынаюць пераважаць. Гэта вялікае дасягненьне, бо большасьць маладнякоўскіх зборнікаў — вершы. І проза цікавая, хоць і не рознастайная - аб барацьбе з панамі расказвае яна.

Але гэта патрэбна: барацьбу з панамі, панскія зьдзекі мы павінны ніколі не забываць, асабліва цяпер, калі ўрад Пілсудзкага рыхтуецца к новым на нас нападам.

**Р. Навінскі.**

## З ЖЫЦЬЦЯ ЗАКАРДОННЫХ БЕЛАРУСОЎ.

**Беларускі процэс у Латвіі. Бібліотэка беларуса-выборшчыка № 11. Рыга, 1926, 80 ст.**

„У Латвіі і па за-межамі яе многа было гутарак аб процэсе, што адбыўся ў пачатку красавіка 1926 над 8 беларускімі настаўнікамі Дзьвінскай і Люцынскае беларускіх гімназій.

Процэс, які цягнуўся тры дні, зранку да ночы, выклікаў да сябе вялікую зацікаўленасьць з боку беларускага грамадзянства і з боку іншых нацыянальнасьцяй Латвіі" (з прадмовы).

Ды й як-жа было не зацікавіцца, калі гэтае настаўніцтва

— „мела сваёй мэтай сілай адарваць ад латыскае дзяржаўнае тэрыторыі: Дзьвінскі, Люцынскі, Рэжыцкі і частку Ілукштанскага павету і далучыць іх да Беларускае дзяржавы, з прычыны чаго яны:

1) уступілі ў зносіны з рознымі таварыствамі існуючымі па-за межамі, у Празе і іншых мясцох, якія маюць аднальковыя з імі мэты;

2) агітавалі на карысьць гэтае мэты, пашыраючы друкаваныя географічныя карты, на якіх частка Латвійскае тэрыторыі ўключана ў тэрыторыю Беларусі, пашыраючы падручнікі географіі Беларусі (у якіх аб гэтым гаварылася), навучаючы вучняў на лекцыях, што Латвія гвалтоўна захапіла частку тэрыторыі Беларусі, што гэта частка ў бліжэйшай будучыне будзе ад Латвіі адабрана, пашыраючы журнал „На чужыне", у якім зьмешчан покліч беларускаму жыхарству з аружжам у руках падняцца на змаганьне з ладзяліцелямі Беларускае дзяржавы, між іншым, і з Латвійскім урадам" і г. д. (з пастановы суда).

Коратка кажучы, з падсудных зрабілі здраднікаў дзяржавы, у той час, як яны працавалі выключна ў культурнай галіне.

Усё гэтае выразна адзначыў у сваім апошнім слове падсудны К. Езавітаў:

— „Мне дужа цяжка бараніцца па істоце ўзвадзімых на мяне абвінавачаньняў, бо фактычна ніякае „істоты" ў іх няма!

— Чуткі, здагадкі і плёткі!

У чым нас вінавацяць?

— У тым, што мы вялі нацыянальна-беларускую працу ў Латвіі і выхоўвалі ў беларускае моладзі пашану да ўсяго свайго роднага, у тым, што мы зьяўляемся перакананымі беларускімі нацыяналістымі.

Ці зьяўляемся мы беларускімі нацыяналістамі?

— Так, зьяўляемся!

Ці вялі мы беларускую нацыянальна-адраджэнчую працу ў Латвіі?

— Так, вялі!

Гэтага мы не хавалі і не хаваем. Гэтым мы духовна жывем і ў гэтым бачым сабе гонар"...

Латвійскі суд апраўдаў усіх падсудных.

Тым больш своечасова аб гэтым успомніць цяпер, калі ўрад Пілсудзкага разграміў у Заходняй Беларусі Рабоча-сялянскую Грамаду.

І тут, і там культурна-экономічныя запатрабаваньні насельніцтва ўрад лічыў зробленымі „за грошы суседняй Дзяржавы".

У Латвіі гэта провакацыя правалілася.

Мы ўпэўнены, што і з абвінавачваньнямі супроць Грамады будзе тое самае.

**Беларус.**

# Нашы чытачы аб нас

## „Чырвоны Сейбіт“ чытаюць на вечарынках

Нашы вяскоўцы вельмі цікавяцца „Чырвоным Сейбітам“. Калі запрапануеш якому небудзь селяніну падпісацца на „Бел. Вёску“ дык ён заразжа пытае, а ці будуць прысылаць дармовы дадатак „Чырв. Сейбіт“.

Сабраліся гэта адзін раз к нам на вячоркі дзяўчаты і хлопцы. Я ўзяў „Чырвоны Сейбіт“ ды давай чытаць поэму „Нікому“, потым поэму „Сірата Алёся“. Дык моладзь так зацікавілася дадаткам, што цяпер, калі зьбіраюцца на вячоркі, заўсёды просяць пачытаць. І яшчэ кажуць, што вельмі добра было-б, каб у „Ч. С.“ друкаваліся песьні, якія можна сьпяваць.

**Хвёдар Трапашка, з вёскі Матарова, Сьмілаўскага раёну.**

## Што павінна быць у „Чырвоным Сейбіце“

Сяляне падпішчыкі „Беларускае Вёскі“ вельмі здаволены дадаткам „Чырвоны Сейбіт“. Атрымаўшы дадатак з ахвотай чытаюць сабраўшыся ў адно памяшканьне і нават уносяць прапановы чым бы больш запоўніць зьмест „Сейбіта“. „Вельмі добра-б было каб у „Сейбіце“ зьмешчалася больш гумарыстычных твораў і вершаў, ўдзеля забавы вясковай моладзі, як напрыклад, у журнале „Лапаць“. Тады ў вяскоўцаў яшчэ больш будзе зацікаўленасьці к памянёнаму дадатку і сваёй газэце „Беларуская Вёска“.

**Селькор Ю. Жардэцкі, в. Янушкавічы Лагойскага раёну.**



Зьлева: селянін вёс. Кухцічы, Узьдзенскага раёну, Янка Шавель. Справа: селянін вёс. Янушкавічы, Лагойскага раёну, Юрка Жардэцкі—пішуць у „Белар. Вёску“ свае думкі аб „Чырвоным Сейбіце“.

# Дадатныя і адмоўныя бакі „Чырвонага Сейбіта“

Мне, як сялянскаму хлапцу, падабаўся выпушчаны „Бел. Вёскай“ двухтыднёвы літаратурна-мастацкі дадатак „Чырвоны Сейбіт“ ды, наогул, ён усім спадабаўся сялянскім хлапцам.

Атрымаўшы з пошты абодвы нумары „Чырв. Сейбіта“ я з вясковымі хлапцамі прачытаў яго спачатку да канца, а пасьля ўжо рабілі мы крытычны агляд яго.

Ну, як вядома, нам сялянскім хлапцам нявядомы ўсе таямніцы складаньня вершаў, да і куды-ж нам ведаць усё гэта, калі мы зусім нядаўна былі цёмныя і толькі пасьля Кастрычніку атрымалі асьвету. Але ўсё-ж такі трэба заўважыць, што разам з дадатнымі бакамі „Чырв.С.“ мае і адмоўныя. Перш за ўсё рэдакцыя „Ч. С.“ не зьмяшчае твораў маладых сялянскіх, пачынаючых пісаць, поэтаў, не выяўляе творчых сіл вёскі, а толькі зьмяшчае вершы вядомых поэтаў: Ул. Жылкі, П. Глебкі, Ул. Дубоўкі, Труса і інш.

Нам вясковым хлапцом, вядома, што яны напішуць добра, бо яны вучоныя людзі, як то—Ул. Жылка вучыцца ў унівэрсытэце, Глебка, Трус студэнты Белпэдтэхнікуму і інш., а вось дык запраўднага песьняра вёскі які піша не за грошы, (як гэтыя вучоныя поэты), а піша шчырую праўду ў сваіх вершах, то такіх вершаў „Ч. С.“ не зьмяшчае. Вось у гэтым вялікі недахоп рэдакцыі „Чырв. Сейбіта“, бо ён не высьвятляе творчых сіл вёскі.

Узяць верш С. Дарожнага, ніякіх асабістых імкненьняў у ім ня відаць, а як па нашаму, вясковаму сказаць „піша не разьбяры бяры“.

Верш М. Горнага „Цар і бог“ ня мае нічога цікавага, няма пэўнае думкі ў гэтым вершы.

Наогул і яшчэ ёсьць такія вершы у якіх невыразная думка, а больш за усё адрыўкі з поэм, з якіх ня уловіш амаль што нічога, бо яшчэ ня выказана ў ім нічога і яшчэ ёсьць шмат чаго у „Чырв. Сейб.“ але яно мо' неправідлова будзе па вашаму. але я выказваю толькі думкі свае і вясковых хлапцоў. якія прымалі ўдзел у аглядзе „Чырв Сейбіта“.

А што датычыцца Ул. Дубоўкі ў „Літаратт. творчасьці сучаснай бел. вёскі“, то трэба сказаць. што Дубоўка часткова няпраў.

Па думцы Дубоўкі сялянскія поэты не павінны пісаць аб жыцьцёвыя нягоды; а калі поэта будзе пісаць а жыцьцёвых нягодах, то ён сваім вершам можа адвярнуць сялянства ад гэтых кепскіх нягод.

Але, ня гледзя ы на гэта „Ч. С.“ робіць добрае ўражаньне на нашых сялянскіх хлапцоў, калі рабіць яго падрабязговы агляд.

Але мы сялянскія хлапцы, спадзяемся, што „Чырв. Сейбіт“ будзе усч больш падыходзіць сваім зьместам да нашай сялянскай моладзі і будзе выяўляць сапраўдны творчыя сілы вёскі.

**Алесь Калевіч.**

**в. Восава, Капыльскі р.**

---

АД РЭДАКЦЫІ. Ваша жаданьне, прыблізіць „Ч.Сейб.“ бліжэй да сялянскіх масаў, каб даць ... места, пачынаючым вясковым песьняром ...віць іх здольнасьці, зусім адпавядае жаданьням нашае рэдакцыі. Усе, хоць крыху цікавыя і тэхнічна хоць з большага здавальняючыя вершы, якія нам прысылаюць з вёскі, мы зьмяшчаем на старонках „Сейбіту“ ці „Бел. Вескі“, не шкадуючы ні часу ні энэргіі, каб выправіць няўдалыя радкі. З увагай ня меншай адносімся мы і да прозаічных твораў вясковых пісьменьнікаў. На жаль, вёска пакуль што ў асобе пачынаючых дае вельмі мала матэрыялу, які хоць умоўна быў бы годны для друку. Да гэтага часу на старонках „Чырв Сейб.“ былі зьмешчаны вершы наступных пачынаючых аўтараў з вёскі, К. Казлоўскі, В. Вітка, Быкоўскі, В. Коваль, Р. Бярэзінская, Ал. Васьковы. І. Дубок, БеразоўскіМ. Алешнік і некалькі інш. Згаджаемся, што гэта колькасьць параўнаўча малая, асабліва, калі згадаць, што ў архіве рэдакцыі знаходзіцца болей 500 вершаў розных аўтараў, лік якіх даход іць бадай да двух сот. Але, каб яны ўсе пісалі так здольна і ўмела, як названыя вышэй таварышы. тады рэдакцыя ня мела-б жаднага клопату і ўсіх-бы друкавала па чарзе. Гэтага няма да гэтага мы толькі імкнемся, мусім агульнымі сіламі навучыцца валадаць тэхнікай вершу і граматна, ясна выкладаць на паперы свае думкі. Таму нельга адмовіцца ад таго, каб даваць месца на старонках „Чырв. Сейб.“ нашым старым, і выявіўшым сябе маладым пісьменьнікам. На іх творах наша вёска мусіць вучыцца.

Ну, а што датычыцца прагавітасьці да грошай, названых вамі паэтаў, то вы перабольшваеце. У першых нумарох няма ні воднага аплачанага радка. Толькі пачынаючы з № 4 рэдакцыя вызначыла маленькі гонорар і выплачвае яго як вядомым ужо аўтарам, так і пачынаючым.

Ул. Дубоўку вы ня зусім добра зразумелі—таго, што вы яму прыпісваеце, ён ніколі не пісаў.

Рэдакцыя таксама стаіць і за тое, каб пісьменьнікі высьвятлялі жыцьцёвыя нягоды—інакш іх творы адарвуцца ад сучаснага жыцьця, не адаб'юць усебакова нашае агульнае вялікае пр цы па стварэньню новага жыцьця, не дадуць малюнкаў уклініваньня новага жыцьця ў старое, змаганьня новага са старым. Але мы за тое, каб аб гэтым расказвалася добрай прозай, чым дрэннымі вершамі. Бо пачынаючыя поэты рэдка калі пішуць добрыя вершы. Па думцы-ж Льва Толстога, ні водзін поэт ніколі нядолее расказаць у вершах таго, што ён мог бы напісаць прозай. Вось чаму рэдакцыя ў свой час і зьмясьціла рэзкі крытычны агляд Ул. Дубоўкі аб творчасьці пачынаючых паэтаў. Мы стаім за рэжым экономіі і ў пісьменьнікаў.

---

# ПАШТОВАЯ СКРЫНКА.

**Р. Бярэзінскай.** Верш „Ой, сагнуўся стан твой“ друкуем. У справе іншых вершаў просім зайсьці ў рэдакцыю.

**Быкоўскому.** Надсылайце яшчэ вершы.

**Сяргею Дарожнаму.** Як у вас гэта вышла наіўна: выбралі ў вёсцы „старшыню“ (?) і той завёў „парадак“. І аб гэтым цэлая лірычная поэма.

**Міколу Сушычскаму.** Апавяданьне „Развод“ будзе зьмешчана ў чарговым нумары „Чырвонага Сейбіту“.

**Беразоўскаму.** Вашы вершы маюць мілагучнасьць і лірычнасьць, што кажа аб вашай здольнасьці, але слаба апрацаваны тэхнічна. Трэба больш сталае знаёмства з вершаваньнем. І навошта такая хітрая надуманасьць—„Ой, вы, далі, чубатыя далі“.. Больш прастаты! Прысылайце болей.

**Міхасю Чарнымху.** „Гэй, вы зоркі“!.. зьмесьцім Уважлівей і рупней працуйце над сваімі творамі. Вучыцеся тэхніцы і чыстаце мовы ад нашых ...епшых пісьменьнікаў і поэтаў.

**М. Лабанку.** Аб п'янстве ў вашай вёсцы лепей было-б напісаць звычайным допісам. Ня друкуем.

**С. Куніцкаму.** Верш да друку не падыходзіць—слабы Пішыце нам аб жыцьці вашай вёскі.

**Ст. Шчурку.** Вершы да друку не падыходзяць.

**Аўгену Жуку.** „На Волзе“—ня друкуем.

**Жабуртовічу.** На ваша запытаньне, ці можна прысылаць апавяданьні ў „Чыр. Сейбіт“ адказваем—калі ласка.

**Ал. Гладкаму.** „Зімоваю ноччу“ ня пойдзе—„малюнак“ зусім не распрацованы.

**Каст. Залатарэвічу.** Вершы прысланыя вамі, сьведчаць што вы маеце здольнасьці, але мала працуеце над тэхнікаю. „Зімовай ноччу“ трэба грунтоўна перарабіць. Папрабуйце пісаць прозай. Селькорам вас залічам. Калі будзеце ў Менску наведайцеся да нашае рэдакцыі.

**М. Варанецкаму**. Верш друкаваць ня будзем. Апрацоўка надта няўдалая. Самы мотыў вершу вельмі цікавы—прышліце нам народны верш з якога запазычылі матыў.

**В Дзямідовічу**. Ня можам вас пацешыць надрукаваньнем вашых вершаў. Здараюцца ў Вас моцныя радкі, але з цэлым вершам вы яшчэ ня можаце саўладаць. Што-ж пробуйце далей,мо' што і выйдзе Толькі адна ўвага—сур'ёзьней думайце над тым што пішаце:

Сіняе жыта, вялікае жыта
Хвалямі мора хвалюючыся ты
Люду працоўнаму, лёсам забытаму (?)
Многа даеш ты ў жыцьці пекнаты.

Скажэце калі ласка,—хто для пекнаты сее жыта?.. Да гэтага часу мы думалі, што жыта дае хлеб і гэта галоўнае, а ў вас выходзіць наадварот. Значыць мы мыляліся?. І з „лёсам“ у вас не тае—у нашай савецкай краіне працоўны люд, скінуўшы уладу паноў і капіталістых, сам кіруе сваім лёсам і сваёй долею—які-ж гэта лёс „забыў“ працоўных"?

Адкуль вы ўзялі, што жыта „сіняе“ і „вялікае“? Мы ведаем жыта зялёнае, сьпелае, высокае, буйнае, а такога ня чулі.

**Алесю Дзяменьцеву**. Вершы па расейску, не друкуем. Пішэце пабеларуску.

**Галясю**. Пытаецеся, як навучыцца пісаць вершы? Биз пэўных здольнасьцяй і нахілу да пісаньня—прапашчая справа: ніколі не навучышся. Да гэтага шчэ трэба мець хоць сякуютакую адукацыю, хоць ніжэйшую, а ў вас яе бракуе. Вазьміцеся за самаасьвету, чытайце Купалу, Коласа, Чарота, Цішку Гартнага, кніжкі па політасьвеце і „Бел. Вёску“.

**Пятрусю Сярмязе**. У вашым апавяданьні многа розных брыдкіх „нецензурных“ словаў, якія ў літэратуры ня ўжываюцца. Ёсьць недарэчнасьці. Гэткіх рэчаў ня друкуем.

**М. Багунцу**. „Мікіта“ ня пойдзе. Першая частка напісана лепей, другая зусім кепская:

„А з учынкаў усіх маіх
Поп цяпер сьмяецца:
Эх, ячэйка ты мая!
Як цябе кахаю"!..

Папы ніколі ячэйку не кахаюць, а ў вас поп так укахаўся у ячэйку ня ведама. ячэйка нічога не зрабіла такога, каб падабацца папу.

**Якубу Хвядобяву**. Вясёлы вы чалавек. Так і рэжаце:

Ды завесьць культуру моцна,
Цемра зьнікла каб ураз
І ня даць малебен богу,
Што узьбіўся на Парнас.

У грэцкіх казках Парнасам называе гара, дзе пасьля сьмерці жывуць поэты. Што з якога гэта часу бог стаў поэтам? Работн. і сяляне мусяць ведаць, што бог ёсьць адна з буржуазных выдумак, каб трымаць у цемры працоўны народ.

**Дубцу**. „Расказ лясьніка" мае многа бяссэнсоўнага. Шмат непатрэбных слоў і зьмест зусім ня цікавы. Вы абмалёўваеце нейкага баязьлівага, набожнага лясьніка, які са стральбаю ў руках спалохаўся воўка. Такія казкі расказваюцца дзецям на печы і дзеці ім ня вераць цяпер:

„Тут я разам супыніўся
І падумаў, што рабіць.
Тры разы перахрысьціўся
А тут душа мая баліць".

Вельмі кепска, што вы да гэтага час хрысьціцеся і шкода што ў вас баліць „душа" Несьвядомы вы чалавек! Ня друкуем.

**Аўдзеяву Дан**. Вершы „Пчала дзеры „Заблудзіў" друкавацца ня будуць. Няма складу ні ладу:

„Толькі мільгаюць у ночы,
Як глядзеў ня відзець вочы.
Ну так што цяпер зрабілі.
Давай выстраліць папробуй".

Папробуйце зразумець, што значаць гэткі радкі.

**М. Рошчыну, Яз. Фалькоўскаму. Брусу. Яньвінскаму, Лебядзе, Комсамольцу, Осіпу Гв. Ясючэні, Малевічу** — да друку вашы творы не падыходзяць.

# Новыя кнігі

**Беларускае Дзяржаўнае Выдавецтва** выпусьціла з друку апошнімі часамі наступныя кнігі: Падручнік політграматы для вясковых школ-перасовак ч. I, цана 50 к. Пастановы і рэзолюцыі ЎсеКП(б) і КП(б)Б па нацыянальным пытаньням—цана 40 к. Грунфэст—што павінна ведаць работніца і сялянка аб падатках—цана 10 к.; С. Гопнэр—як складалася ЎсеКП(б)—цана 15 к.; Сто пудоў ураджаю (зборнік артыкулаў час. „Плуг") цана 25. Піонэрскі сьпеўнік—ц. 25 к.

НОВЫЯ ВЫДАНЬЧІ ЦБ „МАЛАДНЯКА". У апошні час выходзіць з друку „Тэорыя солнту"—Аўг. Барычэўскага і „Магіла льва"—Янкі Купалы.

Здадзены ў друк „Пісаравы імяніны"—п'еса Галубка, і зборнік вершаў Кляшторнага „Кляновыя завеі".



Галоўлітбел № 23971. Адказны рэдактар Р. Шукевіч-Трацьцякоў.